


# БЕЛАРУСКАЯ МОВА

## СІНТАКСІС І ПУНКТУАЦЫЯ

**ПРАКТЫКУМ**

**МІНСК 2008**

МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
УСТАНОВА АДУКАЦЫІ
«МІНСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ ВЫШЭЙШЫ РАДЫЁТЭХНІЧНЫ КАЛЕДЖ»

# БЕЛАРУСКАЯ МОВА

## СІНТАКСІС І ПУНКТУАЦЫЯ

Практыкум
для навучэнцаў I курса

МІНСК 2008

УДК 808.26(075)
ББК 81.2Беи–7
Б 43

Рэкамендаваны да друку прадметна-метадычнай камісіяй мовы і літаратуры і Навукова-метадычным саветам Установы адукацыі «Мінскі дзяржаўны вышэйшы радыётэхнічны каледж» (пратакол № 8 ад 16.04.2008 г.)

С к л а д а л ь н і к
**Н. М. Акуліч**, выкладчык беларускай мовы і літаратуры МДВРК

Р э ц э н з е н т
**І. Р. Ракей**, выкладчык беларускай мовы і літаратуры МДВРК

Б 43 **Беларуская** мова : Сінтаксіс і пунктуацыя : практыкум для навучэнцаў I курса / скл. Н. М. Акуліч. – Мн. : МДВРК, 2008. – 64 с.
ISBN 978-985-6851-49-3

У практычны матэрыял па беларускай мове ўвайшлі практыкаванні па сінтаксісу і пунктуацыі.
Адрасуецца навучэнцам і выкладчыкам каледжа.

**УДК 808.26(075)**
**ББК 81.2Беи–7**

**ISBN 978-985-6851-49-3**





## Прадмова

Практычны дапаможнік «Сінтаксіс і пунктуацыя» прызначаецца для навучэнцаў дзённага аддзялення і выкладчыкаў тэхнічных навучальных устаноў.

Складзены практычны матэрыял у адпаведнасці з праграмай па вывучаемай дысцыпліне. У дапаможніку змешчаны разнастайны дыдактычны матэрыял для практычных заняткаў па сучасный беларускай мове ў межах раздела «Сінтаксіс і пунктуацыя».

Звязныя тэксты і сказы, падабраныя з лепшых твораў сучаснай мастацкай, навуковай і публіцыстычнай літаратуры, будуць садзейнічаць авалоданню сінтаксічнымі нормамі беларускай мовы і павышэнню пунктуацыйнай пісьменнасці навучэнцаў, развіццю іх здольнасці самастойна даследаваць моўныя з′явы.

Прапанаваныя практыкаванні дапамогуць навучэнцам зразумець будову, граматычнае значэнне і функцыю розных тыпаў словазлучэнняў і простых сказаў, а таксама навучаць карыстацца гэтымі сінтаксічнымі адзінкамі пры перадачы вусных і пісьмовых паведамленняў. Выкладчык зможа арганізаваць работу так, каб у час навучэння сінтаксісу актуалізаваліся, замацоўваліся і паглыбляліся веды па марфалогіі, лексіцы, правапісу. Гэта будзе садзейнічаць забеспячэнню комплекснага падыходу да вывучэння мовы.

Дыдактычны матэрыял разлічаны на дыферэнцыраваны падыход у працэссе навучання. Гэта дае магчымасць выкарыстоўваць матэрыял пры індывідуальным і групавым навучанні ў аўдыторыі і пры выкананні дамашніх заданняў. У залежнасці ад мэты і характару работы, а таксама ад узроўню тэарэтычнай падрыхтоўкі навучэнцаў, выкладчык можа спрасціць некаторыя заданні або ўскладніць іх, выкарыстаць матэрыял цалкам, часткова або выбарачна.

Выкананне практыкаванняў патрабуе ад навучэнцаў добрага ведання праграмнага матэрыялу.

## СЛОВАЗЛУЧЭННЕ

**Практыкаванне 1.** *Выпішыце са сказаў словазлучэнні ў табліцу ў адпаведнасці з графамі.*

1. За ракой дарога бегла ўскрай грады лесу да грэблі. 2. Крыху далей стаяла хата з гарадской зашклёнай верандай. 3. У дарогу яны выбраліся пасля запозненага снядання, у самую спёку. 4. Серафім сядзеў у сваім пакоі, але ўсё добра чуў праз расчыненыя дзверы.

*(З твораў А. Асіпенкі)*

| Нумар сказа | Словазлучэнне | | |
|---|---|---|---|
| | іменнае | дзеяслоўнае | прыслоўнае |
| | | | |

**Практыкаванне 2.** *Абазначце ў словазлучэннях галоўнае слова і вызначце від падпарадкавальнай сувязі. Адказы размяркуйце ў табліцы.*

1) Скошаная трава; 2) скасіць траву; 3) паехаў касіць; 4) накасіўшы травы; 5) нашы прапановы; 6) чытаў лежачы; 7) белыя лілеі; 8) яго ўдзячнасць; 9) апублікаваны раман; 10) апублікаваны ў газеце; 11) публікацыя ў газеце; 12) газетная публікацыя; 13) вельмі карысна; 14) вельмі карысны; 15) жыць пры бацьках; 16) смешны анекдот; 17) чытаючы раман; 18) зроблены па-мойму; 19) зроблены па-майстэрску; 20) лежачы ў ложку; 21) нявырашаныя пытанні; 22) іх кватэра; 23) прыедзе заўтра; 24) два дрэвы; 25) дзве рукі; 26) тры бабулі; 27) пяць чалавек.

| Дапасаванне | Кіраванне | Прымыканне |
|---|---|---|
| | | |

**Практыкаванне 3.** *Складзіце словазлучэнні:*

1) мноства (людзі, народ); 2) старшыня (калгас, сход); 3) да пачатку (сеанс, канцэрт, экзамен); 4) кілаграм (цукар, хлеб, крупы); 5) на першым (месца, паверх); 6) жыць пры (бацька, бабуля, дзядуля); 7) пах (мёд, кветкі, бэз); 8) зямля ў (снег, квіцень); 9) здабыць у (бой, сутычка, атака); 10) пасада (дырэктар, міністр); 11) расці ў (бор, лес, гай, пушча, поле, сад, сквер).

**Практыкаванне 4.** *Прачытайце словазлучэнні. Вызначце, якімі яны з`яўляюцца паводле будовы. Пастаўце ў дужках адпаведную лічбу: 1 – простае словазлучэнне, 2 – складанае словазлучэнне.*

Самы блізкі чалавек (); стаяць насупраць ліцэя (); чалавек сэрэдняга росту (); будзем вучыць літаратуру (); у дзве тысячы чацвёртым годзе (); спяваў нізкім голасам (); давайце выберамся ў грыбы (); новая шаўковая сукенка (); надзвычай цікавае падарожжа (); няхай будзе па-вашаму (); расці абапал дарогі (); жыць побач з сябрам ().



**Практыкаванне 5.** *Адзначце спалучэнні слоў, якія не з`яўляюцца словазлучэннямі:*

1) наперадзе калоны; 2) недалёка ад нас; 3) з іх дапамогай; 4) давайце пазнаёмімся; 5) луг і поле; 6) у садзе ля школы; 7) толькі ліцэісты; 8) побач з домам; 9) самы добры; 10) лепш падрыхтаваны; 11) больш зрабілі; 12) яшчэ не сказаў; 13) поле ўзарана; 14) вельмі моцны; 15) нягледзячы на надвор'е; 16) дзякуючы дапамозе; 17) ні рыба ні мяса; 18) у адпаведнасці з пастановай; 19) устаць на золку; 20) пятнаццаць чалавек; 21) надзвычай цікавы; 22) яшчэ мацнейшы; 23) сорак восем; 24) сходзім заўтра; 25) быў з`ездзіў.

**Практыкаванне 6.** *Адзначце словазлучэнні:*

1) двое мінчан; 2) самая цікавая; 3) яе сябры; 4) насупраць школы; 5) дзякуючы намаганням; 6) штосьці сказаць; 7) на чале з кіраўніком; 8) у параўнанні з мінулым; 9) будзем змагацца; 10) трэці злева.

**Практыкаванне 7.** *Адзначце дзеяслоўныя словазлучэнні:*

1) імкненне выйграць; 2) вымытая падлога; 3) хутка ісці; 4) уваход у тэатр; 5) выканаўшы заданне; 6) машынка стрыгчыся; 7) выпрагчы каня; 8) штосьці сказаць; 9) з абаімі прывітацца; 10) жаданне вучыцца.

**Практыкаванне 8.** *Адзначце складаныя словазлучэнні:*

1) жыў адзін-адзінюткі; 2) перакуліць уверх дном; 3) дуб у два абхваты; 4) самы дарагі падарунак; 5) давайце дапаможам сябру; 6) настаўнік сярэдняй школы; 7) вясёлыя спрытныя ластаўкі; 8) сто дваццаць рублёў; 9) будзем збірацца ля музея; 10) набіць руку на вышыванні.

**Практыкаванне 9.** *Адзначце словазлучэнні, у якіх залежнае слова дапасуецца да галоўнага:*

1) пяты кіламетр; 2) яго кніга; 3) якісьці незнаёмы; 4) дзве ракі; 5) скошаны луг; 6) жаданне дапамагчы; 7) фарба для сцен; 8) намаляваны алоўкамі; 9) моцнае хваляванне; 10) у бязвоблачным небе.

**Практыкаванне 10.** *Адзначце словазлучэнні, у якіх словы звязаны кіраваннем:*

1) выкананы ўсімі; 2) ад гэтых поспехаў; 3) тры газеты; 4) дарога каля лесу; 5) прачытаны дыктарам; 6) пяць балаў; 7) папіўшы соку; 8) маўчаў ад хвалявання; 9) з яго пытаннем.

**Практыкаванне 11.** *Адзначце словазлучэнні, у якіх словы звязаны прымыканнем:*

1) з`еўшы абед; 2) у іх хаце; 3) удвая мацней; 4) жыць у горадзе; 5) надзвычай прыемны; 6) просьба дапамагчы; 7) бліжэй за ўсіх; 8) жадаць перамогі; 9) размаўляць па-сяброўску; 10) ішлі не спяшаючыся.

**Практыкаванне 12.** *Адзначце правільна складзеныя словазлучэнні:*

1) ветравы рухавік; 2) аптэчны халат; 3) абыходлівы чалавек; 4) арэшнікавы зараснік; 5) акружны суд; 6) бураковы сок; 7) языковая каўбаса; 8) ягадная мясціна; 9) самадзейны апарат; 10) яблычны сад.

**Практыкаванне 13.** *Адзначце ненарматыўныя словазлучэнні:*

1) загадчык кафедрай; 2) сумаваў па сваіх блізкіх; 3) старшая трэнер Пятрова; 4) не выканаць гэтую работу; 5) паляваць на зайцоў; 6) адплаціць дабром за дабро; 7) стаць у поўны рост; 8) у каго вы навучыліся іграць; 9) праўда даражэй за грошы; 10) выгадавалі пяцярых цялят.

**Практыкаванне 14.** *Адзначце свабодныя словазлучэнні:*

1) чалавек вялікіх здольнасцей; 2) кожны са школьнікаў; 3) на скорую руку; 4) смяяцца ад душы; 5) з даўгоў вылезці; 6) падняць вочы; 7) шчаслівы без меры; 8) уставіць слова; 9) шэрая гадзіна; 10) гладкая паверхня.

**Практыкаванне 15.** *Адзначце словазлучэнні, у якіх сувязь паміж словамі – прымыканне:*

1) пісаць граматна; 2) віднеецца ўгары; 3) а чацвёртай гадзіне; 4) раскласці агонь; 5) просьба застацца; 6) майстэрства маляваць; 7) вельмі цяжкі; 8) аднесціся па-сяброўску; 9) чытаць часопіс; 10) аб цікавай кнізе; 11) ісці спяшаючыся; 12) аб цікавай сустрэчы; 13) рэдка прыязджаць; 14) пісаць алоўкам; 15) прапанова адпачыць.



**Практыкаванне 16.** *Адзначце словазлучэнні, у якіх сувязь паміж словамі – кіраванне:*

1) хутка бегаць; 2) усведамляць абавязак; 3) слухаць цішыню; 4) зелянець на пожні; 5) цёплы вецер; 6) яшчэ спяваць; 7) густы алешнік; 8) любіць Дзвіну; 9) жаданне выказацца; 10) злятае з галін; 11) кпіць з гультая; 12) захоўваць традыцыі; 13) гэтая раніца; 14) памяркоўны чалавек; 15) вандраваць па краіне; 16) пакрыўдзіць нечакана; 17) слухаць музыку; 18) спеюць на дубах.

**Практыкаванне 17.** *Адзначце словазлучэнні, у якіх сувязь паміж словамі – дапасаванне:*

1) сачыць за падзеямі; 2) пракладаць нанава; 3) твой настаўнік; 4) восьмы дзень; 5) спелыя маліны; 6) шукаць спажывы; 7) доўгія вушы; 8) трэці клас; 9) мае поспехі; 10) дзе-небудзь спыніцца; 11) асеннія кветкі; 12) з нашай доляй; 13) другі паверх; 14) прыходзіць штораз; 15) абсадзіць дрэвамі.

## ПРОСТЫ СКАЗ

**Практыкаванне 1.** *Адзначце тып аднасастаўнага сказа адпаведнай лічбай: 1 – пэўна-асабовы, 2 – няпэўна-асабовы, 3 – абагульнена-асабовы, 4 – безасабовы, 5 – інфінітыўны, 6 – назыўны.*

1. Кінь, Агнежка, супакойся. 2. Хадзем дадому. 3. а) Здымак. б) … Насарог. в) Зламаная, уся пакамечаная і паплюшчаная легкавая машына. 4. а) Лета. б) Спёка. в) Хачу піць. 5. Пахла прэлай ігліцай. 6. Трэба было начаваць у Бялынавічах. 7. У харчэўні нікога не было. 8. Усім хацелася як найхутчэй дабрацца да пушчы. 9. З ракі патыхала вільгаццю. 10. Доранаму каню ў зубы не глядзяць. 11. Нам трэба спяшацца дахаты. 12. Святла чамусьці не было. 13. Нават есці не хацелася яму. 14. За гэты мораны дуб нам дадуць вялікія грошы. 15. Хутка ў твар дыхнула свежасцю ракі, запахла гаркавым туманам. 16. А цяпер не пазнаць Вязыні. 17. Пра чалавека мяркуюць па яго справах. 18. Быць бычку на вяровачцы. 19. Беларусь, мая Радзіма! Край лясоў і балот. 20. а) З чаго пачаць? б) За што ўзяцца?

**Практыкаванне 2.** *Падкрэсліце ў сказах граматычную аснову. Вызначце тып выказніка.*

1. Шчаслівыя маладыя таксама смяюцца. 2. Мора было зусім спакойнае. 3. Лес сапраўды быў светлы, але яшчэ без выразных

адзнак вясны. 4. Яе доўга не было. 5. Коля Голуб ужо лічыўся на аўтазаводзе за старажыла. 6. Усё яе цела было ў гэтых зваблівых іскрынках. 7. Насцечка гады на чатыры старэйшая за Серафіма. 8. Генька і многія другія хлапцы яшчэ здалёку пазналі таго чалавека. 9. Сотні новых прыгожых домікаў паблісквалі на сонцы шыфернымі і чарапічнымі дахамі, светлымі шыбамі вокнаў. 10. Усё ішло належным парадкам. 11. У сенцах, падобных на прыхожую, стаяла, абапершыся на вушак дзвярэй, цётка Дар`я. 12. Адчыняюцца веснічкі, і абое яны паварочваюць галовы на скрып. 13. Ён чалавек кансерватыўны. 14. Свая сіла кожнаму міла. 15. Непагода пачала насоўвацца на бор яшчэ завідна. 16. Расказваць яму правілы было лішне. 17. Жнівеньская ноч была цёмная і нейкая душная. 18. Вада, зямля, агонь і паветра – чатыры зямныя стыхіі. 19. Тут усім кінуўся ў вочы высокі шацёр з брызенту, група людзей каля агню. 20. Усе нашы меркаванні, як высветлілася, былі памылковымі. 21. Наш магазін не спецыялізаваны, а універсальны. 22. Адзін з удзельнікаў дыскусіі быў асабіста яму знаёмы. 23. У небе цяжка плылі чароды белых воблакаў. 24. А вось мой сімвал – ясень. 25. Цябе з ніякай кветкай не мог я параўнаць. 26. Яна прыбегла са школы вясёлая. 27. Я заўсёды рад табе дапамагчы. 28. Тут будуць пабудаваны новыя дамы. 29. Давайце сустрэнемся ля тэатра. 30. Ганна выбралася ў поле палоць буракі. 31. У музеі нас папрасілі пакінуць фотаапараты ў гардэробе. 32. Няма ў мяне сёння часу. 33. Ён ўжо быў выйшаў з хаты, але вярнуўся. 34. Ад ветру лісточкі з дрэва сыплюцца, сыплюцца… 35. І бягуць-плывуць аблачынкі над намі. 36. Я ўзяў ды расказаў пра гэта бацьку. 37. Мы будзем змагацца за праўду. 38. Няхай родным словам загаворыць наш народ!

**Практыкаванне 3.** *Пастаўце, дзе неабходна, працяжнік.*

1. Базарная плошча з правага боку. 2. Вечар як у дзіўным сне. 3. Якая радасць прачнуцца ў маці на сене мурожным! 4. Я стары, я нават вельмі стары чалавек. 5. Наша Зямля гэта планета, а Сонца зорка. 6. Прыемнае слова вясновы дзень. 7. Народнае мастацтва неад`емная частка духоўнай культуры беларусаў. 8. Рак не рыба, кажан не птушка. 9. Але дзед яму не абаронца. 10. Воднае пола, або ватэрпол, алімпійскі від спорту. 11. Даніла яму за бацьку. 12. Уся сцяна нібы шкляная. 13. Дзяўчынка бы ягадка тая. 14. Хата ў іх цяпер што клуб той. 15. Ноч была нібы казка.



16. Дзень выдаўся як на заказ. 17. Адзін у полі не воін. 18. Васіль, хутчэй за ўсё, ужо вядомы чалавек. 19. Разважлівы чалавек наш дзядзька Антось. 20. Свая сярмяжка ніколі не цяжка. 21. Нядзелек за год за пяцьдзесят. 22. Дзве трэція агароду бульба. 23. Яму ўжо гадоў за пяцьдзесят. 24. Шыр, прастор вокам не ахапіць! 25. Нацыя, нацыяльнае не капрыз гісторыі, а дадзенасць, што склалася вякамі… 26. Ад Віцебска да Канашоў, цераз раённы цэнтр, восемдзесят кіламетраў. 27 Баязліваму і корч мядзведзь.

**Практыкаванне 4.** *Адзначце сказы, у якіх на месцы пропускаў неабходна паставіць працяжнік.*

1. Ганак _ маё любімае месца. 2. Кожная мова _ гэта неацэнны скарб, які належыць не толькі аднаму народу, а ўсяму чалавецтву. 3. На Беларусі пчолы _ як гусі. 4. Наш Мікола цяпер _ студэнт. 5. Вясна сёлета _ позняя. 6. Моладзь _ падмурак сяброўства дзяржаў. 7. Тры ў квадраце _ дзевяць. 8. Я, можна сказаць, _ ужо настаўнік. 9. У хаце _ хоць шаром пакаці. 10. Ночы ў ліпені _ кароткія. 11. «Калыханка» _ творчая ўдача беларускага тэлебачыння. 12. Рукі _ хоць рэпу сей. 13. Сыты галоднаму _ не таварыш. 14. Пушчы звонкія, пералогі _ гэта наша радзіма, наш дом. 15. Сняжок _ як пушок. 16. Паважаць бацькоў _ святая справа. 17. Нядрэнны хлопец _ гэты дарожны майстар. 18. Ноч _ хоць іголкі збірай. 19. Капаць бульбу _ вельмі цяжкая праца. 20. Ніякая маці _ не вораг свайму дзіцяці. 21. Сам сабе чалавек _ не вораг. 22. Барысаглебская царква _ дзівоснае тварэнне беларускіх дойлідаў. 23. Хлопец _ відаць, добры памочнік. 24. Некалькі невялікіх крам _ вось і ўвесь гандаль. 25. Надзвычай сціплая жанчына _ мая маці. 26. Лета _ час дажджоў жаданых, бліскавіц і перуноў. 27. Готыка _ гэта архітэктурны стыль позняга сярэднявечча. 28. Цудоўная рэч _ жыццё! 29. Прага пазнання і тварэння _ такія ж сілы, як каханне і голад 30. Маленькі чытач _ непадкупна патрабавальны, чулы на праўду і фальш. 31. Стаў нам гэты дом _ як родны. 32. Туман _ густы, цяжкі і вільготны. 33. Свая зямля _ вось што аснова. 34. Хлопец ён, _ безумоўна, працавіты, нічога не скажаш. 35. Слова _ мая ўцеха. 36. Тры гады _ вялікі час у чалавечым веку. 37. Хлопцы, _ відаць, добрыя грыбнікі. 38. Крылы _ цяжар, калі ў іх не верыш зацята. 39. Надвор'е _ хоць плач. 40. Не малады ўжо чалавек _ дзед Талаш. 41. Добры сябар _ гэты Алесь. 42. Парэчча _ слаўная мясціна, куток прыгожы і вясёлы.

43. Мая дачка _ таксама студэнтка. 44. Дзень Перамогі _ адно з самых шчымлівых і радасных святаў. 45. Быць паэтам сваёй працы, любіць яе _ самае вялікае шчасце для чалавека. 46. Касцёл Алёны і Сымона _ помнік архітэктуры пачатку XX стагоддзя. 47. Яна (доктар) была для хворага _ нібы маці. 48. Любіць радзіму _ значыць шанаваць родную мову. 49. Круты чалавек _ дзед Грысь. 50. Гаспадар _ гэта вельмі мудры, руплівы, адказны чалавек. 51. Дарога _ хоць каціся. 52. МАЗ _ лепшая аўтамабільная марка нашай краіны. 53. Буслянка _ гэта школа выхавання: як жыць, дружыць і ў вырай адлятаць. 54. Выпрацоўваць характар _ неабходная справа. 55. Асаблівы чалавек _ яго бацька.

**Практыкаванне 5.** *Адзначце двухсастаўныя сказы.*

1. А вось і пушча наша, не раз узгаданая ў казках і паданнях. 2. У лясах Беларусі дваццаць восем парод дрэў і пад семдзесят відаў кустоў і паўкустоў. 3. Двары і дарожкі акуратна выкладзены аднолькавага памеру камянямі або пліткамі. 4. У палацы мастацтваў адкрыта выстава твораў украінскіх мастакоў. 5. Сярдэчна дзякую вам за дапамогу. 6. У паход выбраліся рана, а пятай гадзіне. 7. Заняткі тады праводзіліся праз дзень. 8. На ўскраіне вёскі вадзяны млын. 9. Потым усхапілася і ўзяла ў руку напісаную паперу. 10. Да культурна-асветніцкіх устаноў адносяць клубы, дамы культуры, лекторыі, бібліятэкі, паркі культуры і адпачынку. 11. Усё напісанае забылася. 12. Па-мойму, збіраецца на дождж. 13. Едуць, ідуць пехатою, яшчэ больш падымаючы пыл. 14. Возера Свіцязь, апетае Міцкевічам. 15. Ніхто не скарыць ніколі агню і вады стыхіі.

**Практыкаванне 6.** *Адзначце аднасастаўныя сказы.*

1. Ад страху ў мяне аж мароз па скуры пабег. 2. Ніколі не даводзілася яму чуць такіх слоў. 3. Быць бычку на вяровачцы. 4. Міхась, заходзь хутчэй у пакой. 5. Вось чэк, падпісаны загадчыкам секцыі. 6. Мітрошку адразу расхацелася катацца. 7. Мне пра тое здарэнне нічога не сказалі. 8. Для мяне ўсё гэта было вялікім адкрыццём. 9. Гэты дождж надоўга. 10. Магазін чамусьці на замку.

**Практыкаванне 7.** *Азначце пэўна-асабовыя сказы.*

1. Падыходжу да сцяны Сафіі, асцярожна кратаю яе рукою, быццам выпрабоўваю сцяну на цвёрдасць і ўстойлівасць. 2. Напішы яму, Алеська, да хутчэй. 3. Звярнуць з вуліцы сцежкаю да рэчкі. 4. Гэты дуб распілуюць на тонкія дошкі і будуць рабіць з яго самаю дарагую і прыгожую мэблю. 5. Сядзе сабе ў цяньку старой бэры і чытае. 6. Хутка выберуся ад вас. 7. Завод пабудавалі гады тры назад. 8. Ці паедзеце сёлета да сваіх? 9. Няхай бы задумаўся пра заўтрашні дзень. 10. Арынка, збіраешся на лета ў вёску ці ў горадзе застанешся?

**Практыкаванне 8.** *Адзначце няпэўна-асабовыя сказы.*

1. Паклікалі тады на дапамогу дзядзьку Антона. 2. Хутка і ў горад выберамся. 3. Адрозніваюць тры віды віславання: на байдарках, на каноэ і акадэмічнае. 4. Чарніцы часта ядуць з малаком. 5. Дзядзьку Мітрыча за яго трапнае слова хацелі нават на руках пагойдаць. 6. Цяпер саматканыя палотны робяць рэдка, але робяць… 7. Газеты, часопісы і лісты прыносяць двойчы: ранкам і вечарам. 8. Перад спаборніцтвам спартсменаў-барцоў узважваюць. 9. Учора збіралі грыбы, а сёння ўжо ягады. 10. Нарэшце выехалі з лесу на прырэчны прастор.

**Практыкаванне 9.** *Адзначце абагульнена-асабовыя сказы.*

1. Не рабі ліхога і не бойся нікога. 2. Не заснеш у гэты вечар. 3. Аднымі рукамі нямнога зробіш. 4. Навошта ж выходзіць так рана з хаты? 5. У газетных кіёсках можна купіць канверты, маркі, значкі, аўтаручкі. 6. Трэба было выбірацца на свежае паветра. 7. Навуку за плячыма не носяць. 8. На такую справу можа і сілы не хапіць. 9. Нідзе не знойдзеш столькі вялікіх, прыгожых, магутных, шматгадовых дубоў, як на Палессі. 10. Век жыві, век вучыся.

**Практыкаванне 10.** *Адзначце безасабовыя сказы.*

1. Ні плуга, ні каня, ні бараны няма ў яго ў тым двары. 2. Убачыць толькі б хоць на міг сваю радзімую старонку! 3. Мне хацелася б больш ведаць пра арганізацыю сацыялагічнай радыёслужбы. 4. Нялёгка яму будзе з такім характарам. 5. Трэба быць памяркоўным у дачыненні да поглядаў іншых людзей. 6. У нас хату часта будуюць талакою. 7. Нікога не было на двары ў засені агромністай ліпы. 8. Мокрым снегам пляснула ў акно. 9. Вечарамі на вадзяным млыне неяк таямніча і крыху трывожна. 10. Вёска амаль замецена снегам.

**Практыкаванне 11.** *Адзначце інфінітыўныя сказы.*

1. Тут не абысціся без перакладчыка. 2. А па дарозе так добра думаецца. 3. Эх, задумацца б і паразважаць над табою, жыццё! 4. Як табе там жывецца адной? 5. Каналы ж трэба чысціць, паглыбляць, пашыраць. 6. Толькі горад стары не пазнаць ужо нам. 7. Пад вечар пачало збірацца на дождж. 8. Сабрацца б разам дружнай грамадою! 9. Не мінуць памылак анікому ў жыцці. 10. Гэтаму чалавеку выпала ў жыцці многа папрацаваць.

**Практыкаванне 12.** *Адзначце намінатыўныя (назыўныя) сказы.*

1. Ветракі ў нас досыць рэдкая рэч, хіба на Случчыне і пад Клецкам. 2. Там паліца з лялькамі ў нацыянальных строях. 3. Вялікі, амаль правільны азёрны круг, з усіх бакоў зарослы дужа старымі дубамі. 4. У яго светлыя валасы і цёмныя вочы. 5. У гэтым кавалку 10 метраў тканіны. 6. На дарозе галалёдзіца. 7. У іх ужо дарослыя дзеці. 8. Вунь і тая груша-дзічка з бусліным гняздом. 9. На дрэвах, на вадзе, на гліне адхонаў аранжавы водбліск. 10. Апошнія хвіліны расставання.

**Практыкаванне 13.** *Адзначце няпоўныя сказы.*

1. На поўдні і ў Прыдняпроўі нават вінаград беларускіх гатункаў. 2. Капае са стрэх. 3. Апошнія маслюкі і зялёнкі змерзлі. 4. Ішлі пад густымі кронамі анямелых дрэў, па жылістай лясной зямлі, па лясным глухатраўі. 5. Такое ніколі не забываецца. 6. А назаўтра два лісты. 7. На ўсходзе Беларусі трапляюцца бадай што найлепшыя сасновыя бары. 8. Маю пэўную надзею толькі на вас. 9. Хвіліны праз дзве схаваліся за горкаю. 10. У яго добры светлы твар, але хмурыя халаднаватыя вочы.

## СКЛАДАНЫ СКАЗ

**Практыкаванне 1.** *Выпішыце сказы, паміж часткамі якіх: а) ставіцца коска; б) ставіцца працяжнік; в) няма знакаў прыпынку. Пастаўце патрэбныя знакі прыпынку, растлумачце іх.*

1. Трымаўся невялікі марозік, і пад нагамі ледзь чутна парыпваў неглыбокі снег. 2. Глядзіш на іх [баравікі] і сэрцу міла. 3. Недзе ў лесе жаласна ціўкала птушка і парыпвала надломленае бурай дрэва. 4. Гаспадар запрасіў гасцей у хату і сам увайшоў першы. 5. Дзесьці залівалася жаўна ды ў вербалозах цяжка стагнаў турок. 6. Адна міна ўцэліла ў ствол сасны. Коратка бліснула полымя і дрэва пераламалася. 7. Яна азірае вялікі натоўп і радаснае хваляванне напаўняе яе сэрца. 8. Здараецца да ніткі дождж прамочыць ці высеча няшчадны жорсткі град. 9. Была адна надзея дык і тая сёння прапала. 10. Ва ўсіх баках пагрымліваў гром і мільгацела маланка. 11. Кінь непатушаную запалку і пабяжыць агонь не толькі па зямлі але і па верхавінах дрэў. 12. Напярэдадні ўсю ноч круціла завіруха і на дарозе яшчэ не ўезджанай ляжалі гурбы снегу. 13. Грымнуў стрэл і цецярук зваліўся на зямлю. 14. На двары вечарэла і ў пакоі быў ужо змрок. 15. Я глядзеў на заплаканую маці і сам быў блізкі да плачу. 16. Выглянула сонца і ўсё зазіхацела. 17. Зімою трашчыць уночы на рэках лёд і гул ідзе высока аж да неба. 18. Нізка над горадам ішлі мутныя хмары і ад гэтага вада ў рэчцы была падобна колерам да расплаўленага волава. 19. Ля самага дрэва з-пад снегу тырчалі зялёныя кусцікі чарніц і цвіла нейкая бледна-блакітная паўночная кветка. 20. Гаруе Насця і сама сябе бічуе за свой парыў.

## СКЛАДАНАЗАЛЕЖНЫ СКАЗ

### Знакі прыпынку ў складаназалежным сказе

**Практыкаванне 1.** *Прачытайце, растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў складаназалежных сказах.*

1. Працоўная слава – гэта не тое, што даецца чалавеку адзін раз і назаўсёды. *(У. Краўчанка)* 2. Зрабіўшыся дарослым, князь Ізяслаў пачаў клапаціцца пра тое, каб грамаце вучыліся і іншыя палачане. *(У. Арлоў)* 3. Пайду за вёску на гару, дзе вецер на жалейцы свішча. *(М. Танк)* 4. Там, дзе сінее Свіцязь, сярод палёў, лясоў жыве паэта [Міцкевіча] імя. *(А. Куляшоў)* 5. Каб у зман чужынца ўвесці, – мы ўсе ў адзін ступаем след. *(А. Астрэйка)* 6. Як не клеіцца работа – ад турботы не ўцячы. *(А. Астрэйка)* 7. Лабановіч сабраўся паблукаць па верханьскіх ваколіцах, тым болей што не ўсе яны былі даследаваны ім. *(Я. Колас)* 8. Вясной, як забуяюць росы, зашуміць, загойдае калоссе. *(П. Броўка)* 9. Па прычыне таго што рэчка хутка мялее, рыбы ў ёй амаль не відаць.

*(Х. Шынклер)* 10. Пакуль жывём – у полі праўду сеем. *(Л. Геніюш)* 11. Дзеці чакалі аднаго: калі наступіць вясна. *(З. Бядуля)* 12. Калі юнак выпраўляецца ў далеч жаццёвых шляхоў, – па сэрцу сабе выбірае настаўнікаў і дружбакоў. *(А. Куляшоў)*

**Практыкаванне 2.** *Спішыце, пастаўце прапушчаныя знакі прыпынку і растлумачце іх. Падкрэсліце падпарадкавальныя злучнікі адной рыскай, а злучальныя словы – дзвюма.*

1. Стваральнікамі цудоўных дэкаратыўных тканін: дываноў, абрусаў, посцілак, сурвэтак – з'яўляюцца беларускія сялянкі, якія ўклалі ў іх шмат густу, мастацкай фантазіі і шматвяковага народнага вопыту. *(Н. Камсюк)* 2. Лічыцца што пасля мовы адзенне – найважнейшая этнічная прымета народа. *(М. Раманюк)* 3. Прыказкі і прымаўкі абагульняюць вопыт, даюць тыповыя характарыстыкі якія праверaны безліччу падзей і сітуацый. *(Р. Шкраба)* 4. У пачатку ліпеня калі на надзвінскія лугі выпаўзаюць стракатухі-касілкі мядовы водар кветак трымаецца ў паветры ледзь не да самага світання. *(А. Асіпенка)* 5. Мне песня толькі тых прысніцца хто не згінаў пакорна плеч. *(Я. Пушча)* 6. Было добра чуваць як размерна і мякка шоргаюць крокі вартавога. *(А. Асіпенка)* 7. Хто капейкі не беражэ, той сам рубля не варты. *(Прыказка)* 8. Да лясной рачулкі што бяжыць з крыніцы сцежкаю хаджалай зубр ідзе з зубрыцай. *(Я. Пушча)* 9. Вядзі мяне, зялёная радзіма, туды дзе я пачаўся як ручай. *(Я. Сіпакоў)* 10. Такога спеву сугалосся што тут над рэчкаю панёсся ніхто не зложыць, не зайграе. *(Я. Колас)* 11. Цякла тут з лесу невялічка травой заросшая крынічка абодва берагі каторай лазняк, ракітнік абступалі. *(Я. Колас)* 12. Далёка ўшыр – бязмежжы дзе нікне далягляд, як чоўны на ўзбярэжжы, чарнеюць стрэхі хат. *(Н. Гілевіч)*

**Практыкаванне 3.** *Выпішыце складаназалежныя сказы, у якіх дадаными часткі знаходзяцца: а) перад галоўнымі; б) пасля галоўных, в) у сярэдзіне галоўных. Затым выпішыце сказы, у склад якіх уваходзяць фразеалагізмы, знешне падобныя на дадаными часткі. Пастаўце знакі прыпынку.*

1. Байцы пасвяжэлі павесялелі пасля сну дарма што адпачынак быў кароткі. 2. Нявада ішоў абочынай гасцінца адкуль увесь снег змяло ў прыдарожныя лагчыны. 3. Перад апошнім домам машына што ішла наперадзе спынілася. 4. Ледзь толькі дождж перастаў на вуліцу выбеглі дзеці. 5. У пакoі гарэў агонь хоць на вуліцы яшчэ добра відно. 6. Час які заставаўся да заканчэння школы праляцеў як у сне. 7. Калі ўздымалася сонца ад інею заставаліся толькі цемнаватыя плямы вільгаці. 8. Працавалі мы бог ведае колькі. 9. Снег які наліп на галіны ажно ззяе ў сонечных промнях. 10. Каб дабрацца да таго месца трэба было ісці праз балота. 11. Ледзь зачэпіш галіну пажоўклыя калючкі хвоек ападаюць на дол. 12. Мы пазносілі ўсё ў дом паскідалі дзе папала. 13. Байцы ўцякалі каб уратавацца але пакінуўшы акопы яны траплялі ў яшчэ большую небяспеку. 14. Слабада дзе жылі дзегцяры была пракурана дымам смалой і дзёгцем. 15. Не ганьбуй старым ботам пакуль новага не пашыў. 16. Хто яна і адкуль Таня сама не ведала. 17. Крык стаяў хоць вушы затыкай. 18. Там дзе зайшло сонца далёка за полем у небе тырчала вострая і доўгая дзіда касцёла. 19. Каб крыху перавесці дыханне Мікола ля ўваходу спыніўся на момант пасля не пастукаўшы ў дзверы з сілай рвануў іх на сябе. 20. Цяпер мы кожны дзень бегалі да балотца глядзець наколькі апала вада. 21. Калі мой конь закульгавеў няма як ехаць мне сёння. 22. На белай канюшыне што кучаравіцца ля кузні зумкаюць пчолы. 23. Што вінен аддаць павінен. 24. Пашка сачыў за Віктарам пакуль таго не схавалі высокія сланечнікі. 25. Дзяўчына бегла куды вочы глядзяць.

## Знакі прыпынку ў складаназалежным сказе з некалькімі дадаными часткамі

**Практыкаванне 1.** *Спішыце, пастаўце знакі прыпынку і складзіце схемы 5-ці сказаў (на выбар).*

1. Толькі па дзвюх абгарэлых бярозах што калісьці стаялі перад хатай стары пазнаў месца дзе пражыў усё сваё доўгае жыццё. *(І. Шамякін)* 2. Я вярнуўся сюды дзе праводзіла ў свет мяне маці дзе я першую радасць і смутак маленства пазнаў. *(Р. Няхай)* 3. Вучыў мяне лес пазнаваць прыгоства суладнасць і чары прыроды дзе птаства спраўляе штогод карагод дзе тояць крыніцы празрыстыя воды для рэчак каб край умываць. *(Я. Колас)* 4. Калі шануем тую мову якую продкі зберaглі скажы на ёй такія словы каб у вяках яны жылі. *(Ю. Свірка)* 5. Найпрыгажэйшы бывае чалавек тады калі ён не ведае пра гэта калі ён не бачыць самога сябе. *(Я. Брыль)* 6. Мы хочам каб усюды ў нашай краіне ва ўсіх

яе гарадах і вёсках былі прыгожыя кветкі сады і паркі каб людзі дыхалі чыстым здаровым паветрам. *(Т. Хадкевіч)* 7. Не забывайце сцежкі даўнія што мсціўцы вытапталі ў лесе калі праз ночы легендарныя вам светлы дзень насустрач неслі. *(Н. Гілевіч)* 8. І гэты край дзе нарадзіўся рос дзе днее вечарэе і світае ўсё – ад зор далёкіх і да рос – твая радзіма родная святая. *(Р. Барадулін)*

**Практыкаванне 2.** *Спішыце, раскрыйце дужкі, устаўце прапушчаныя літары і пастаўце знакі прыпынку. Зрабіце поўны сінтаксічны разбор складаназалежнага сказа з некалькімі даданымі часткамі (на выбар).*

У 1993 годзе мы адзначалі сто гадоў з дня нараджэ…ня выдатнага беларускага піс…менніка дзе…ча беларускай нацыянал…най кул…туры Максіма Іванавіча Гарэцкага.

Так здарылася што р…знабаковую і таленавітую творчасць гэтага мастака якая выйшла з глыбінь народнага жы…ця мы ра…крываем як бы (на)нава. Максім Гарэцкі – постаць велічная, дыяпазон яго творчасці вельмі шырокі і багаты.

Максім Гарэцкі вельмі добра ўсв…дамляў задачы ця…касці перашкоды якія стаяць перад кожным хто адважыўся ісці па шлях… нацыянальнага (А, а)драджэння. Ён належ…ў да так званай залатой пяцёркі ў якую ўваходзілі Янка Купала Якуб Колас Максім Багдановіч Змітрок Бядуля і ён сам Максім Гарэцкі.

Максім Гарэцкі адным (з, с) першых закладваў цагліны ў падмурак беларускай прозы. Ужо яго першы зборнік апавяданняў «Рунь» (1914) паказваў як заўважыў акадэмік Я. Карскі што да нас ідзе мастак самабытны і глыбокі. У Максіма Гарэцкага ёсць апавяданні «Літоўскі хутарок», «Дзёгаць», «Чарнічка» якія ўпрыгожылі б самую развітую літаратуру.

Мала вельмі мала часу падараваў лёс М. Гарэцкаму каб (да) канца раскрыцца як пісьменніку, як мастаку слова. Само кароткае жы…цё Максіма Гарэцкага гэта подзвіг высокі подзвіг служэння сваёй Радзіме свайму народу сваёй (матцы) зямлі.

*(«Літаратура і мастацтва»)*

## Знакі прыпынку ў складаным бяззлучнікавым сказе

**Коска** ставіцца, калі часткі складанага сказа маюць інтанацыю пералічэння і цесную сувязь паміж сабой: 1. *Веснавое сонца свяціла ярка, першыя жаваранкі ўжо заліваліся недзе ў*



*вышыні, палі стракацелі белымі і чорнымі плямамі. 2. Спяваў гарласты певень, адзін перад другім захлёбваліся брэхам сабакі. 3. Адмакрэлі і пацямнелі лагчыны, першыя прагаліны зачарнеліся на палях, лазнякі страцілі сваю празрыстасць і, здаецца, адразу пагусцелі, набраклі пералівамі фарбаў – шызых, ліловых, шэрых…*

**Кропка з коскай** ставіцца, калі часткі складанага сказа даволі развітыя, маюць свае знакі прыпынку: 1. *Ціха трапечуцца лісці зялёныя, з ветрыкам мову вядуць; вішні, узняўшыся белай каронаю, быццам дзяўчаты, цвітуць. 2. Над рэчкай высокай сцяной стаяць стромкія хвоі, з лахматымі, белымі ад інею шапкамі; шырока развесілі сваё галлё волаты-дубы; блішчаць ледзянымі пацеркамі пышныя бярэзіны сабраўшыся ў купку. 3. Праляталі чародкі дзікіх качак, спяшаючыся да дажджу знайсці сабе дзе-небудзь у чаротах сховішча; быццам кросны, снавалі, нізка лётаючы над зямлёй вакол сваіх хацінак, прылепленых пад стрэхамі, ластаўкі.*

Пастаноўка двукроп'я і працяжніка залежыць ад адносін паміж часткамі складанага бяззлучнікавага сказа.

**Двукроп'е**

| Адносіны паміж часткамі сказа | Можна ўставіць | Прыклад |
|---|---|---|
| Другая частка раскрывае змест першай | *а іменна* | *1. Надвор'е было няўстойлівае: неба час ад часу зацягвалася хмарамі, імжыў дождж, затым зноў выблісквала сонца. 2. Усё было па-ранейшаму: глуха шумеў лес, нізка над зямлёй плылі хмары.* |
| Другая частка – прычына | *бо, таму што* | *1. Вася пачырванеў: яму цяжка было хлусіць. 2. Я сёння не пайду на вуліцу: холадна. 3. У кватэры стаяў нясцерпны холад:* ацяпляльны сезон *яшчэ не пачаўся.* |
| Другая частка дапаўняе, удакладняе, канкрэтызуе змест першай | *што, як* | *1. Я заўважыў: вецер змяніў напрамак. 2. Адразу стала ясна: дажджу не мінуць. 3. Хутка ўсе заўважылі: самалёт пачаў зніжацца. 4. Ірына раптам адчула: яна мае нейкую ўладу над гэтым хлопцам.* |
| Другая частка выражае прамое пытанне | – | *1. Вось толькі пытанне: як рана ён пойдзе? 2. Пеця паглядзеў на дырэктара: як той? 3. Перад гаспадаром паўстала праблема: дзе пакласці гасцей спаць? 4. Усе з трывогай паглядалі на неба: ці не набліжаецца навальніца?* |

**Працяжнік**

| Адносіны паміж часткамі сказа | Можна ўставіць | Прыклад |
|---|---|---|
| Першая частка – умова, час | *калі* (перад першай часткай) | *1. Адчыніш фортку – павее халадок (калі адчыніш фортку, то павее халадок) 2. Жэняцца – скачуць, разводзяцца – плачуць.* |
| Другая частка – вынік, вывад | *таму, і таму* | *1. Гаспадарка яе невялікая – Даша адна спраўлялася з ёю. 2. Мост праз раку быў разабраны – давялося пераязджаць уброд.* |
| Другая частка мае параўнальнае значэнне | *як, быццам* | *1. Ідзе па вуліцы – лебедзь плыве. 2. Слова сказаў – сякерою адсек.* |
| Супрацьпастаўленне | *а, але, аднак* | *1. Пастукалі ў дзверы – ніхто не адгукаецца. 2. Каса не косіць – каса брые. 3. Гэта не я гавару – гора маё гаворыць.* |
| Хуткая змена падзей, нечаканы вынік | – | *1. Зачэпіш галінку – на галаву снег, як са страхі. 2. Бліснула маланка – стала відна як удзень. 3. Наскочыў мароз – закарэла гразь, умерзла і аж патрэскалася зямля.* |
| Другая частка выражае дадатковае паведамленне і пачынаецца словамі: *гэта, то, так, такі* | – | *1. Прасіцца ён не будзе – гэта я цвёрда ведаю. 2. У вас валасы дужа мяккія – такія звычайна ў жанчын бываюць. 3. Васіль так-сама крыху прыгорбіўся – так ходзяць усе сталыя людзі.* |
| Другая частка мае вынікова-абагульняльнае значэнне | – | *1. Стракозы ляталі над травой, у паветры таўкліся камары, воблакі павольна плылі ў вышыні і знікалі – усё гэта прадказвала цёплыя дні.* |

**Практыкаванне 1.** *Выпішыце сказы, у якіх паміж простымі часткамі трэба паставіць: а) коску, б) кропку з коскай, в) працяжнік, г) двукроп'е. Вусна перабудуйце складаныя бяззлучнікавыя сказы ў складаназлучаныя або складаназалежныя.*

1. Спяшацца асабліва не было чаго дзень увесь яшчэ нарадзе. 2. Табурэтак на ўсіх не хапала прыйшлося ўнесці з сенцаў доўгі ўслон. 3. Заспяваюць другія пеўні ногі самі ссоўваюцца з ложка. 4. Ясным днём палі пераліваліся квеценню лугавінак шыза-сінімі хвалямі жыта смарагдавымі колерамі лёну і ячменю і нібы млелі ў пяшчоце духмяная парнасць узнімалася ад іх, лёгкай смугой калыхалася-дрыжала над зялёным морам. 5. У полі прысвістваў сыраваты, халодны вецер балюча секлі па твары сняжынкі. 6. Дзед аж устрывожыўся чаго гэта старая па такой далі сюды прыйшла? 7. У той жа момант пачуўся ўсплёск гэта шчупак выскачыў з вады і хапіў бляшню. 8. Ідзём гадзіну, другую нідзе ні вёскі ні хаця б хаты. 9. Хата пачынае набываць іншы выгляд падняліся сцены, прарэзаліся вокны, дзверы. 10. Канечне, па першым часе нялёгка будзе. Пачнеш вучыцца, уцягнешся ўсё стане на сваё месца. 11. Палянку мастак добра ведаў ужо трэцюю восень прыязджаў ён сюды пісаць асенні эцюд. 12. Генерал глянуў на мяне неяк здзіўлена як гэта пісака можа даваць такія практычныя парады? 13. Дождж абмые выгарышча трава пойдзе маладая расці. 14. Вецер уціх пацяплела з лагчыны пачалі сунуцца шэрыя космы туману. 15. Пабелка на вежы з гадамі абсыпалася вежа выглядае цяпер чырвонай. 16. Ніна разумела рана ці позна гэтая размова павінна была адбыцца. 17. Ляжаш спаць, укрыешся аўчынай ад самотных дум знікае сон. 18. Дарогу ён ведае на памяць яму няма чаго баяцца ні калдобін, ні крутых паваротаў. 19. Толькі цяпер я заўважыў сярод статку важна пахаджвае даўганогі гаспадар балот. 20. Пашумлівае вецер у голым веццi бяроз у вокны пазірае бясконцая зімняя ноч. 21. Вада знаходзіцца ў стане вечнага руху ад сонца яна паруе з вады робяцца хмары з хмар падае дождж. 22. Першае ўражанне самае моцнае і правільнае гэта маё цвёрдае перакананне. 23. Глядзяць сіратою лугі пажоўклі, аселі стагі, да долу прыпалі. 24. Ужо прыцемлівалася паціху, быццам нехаця, усчынаўся дробненькі дожджык. 25. Павярнулі бліскучы кран палілася вада.

**Працяжнік паміж дзейнікам і выказнікам**

Пры адсутнасці дзеяслоўнай звязкі паміж дзейнікам (Д) і выказнікам (В) *працяжнік ставіцца* ў наступных выпадках:

| Правіла | Прыклад |
|---|---|
| 1. Калі Д-назоўнік стаіць перад В-назоўнікам | *1. Лес – жывая вопратка зямлі. 2. Гвардыян – чалавек хітры. 3. Палачукі – народ гасцінны.* |
| 2. Інфінітыў – інфінітыў | *1. Прачытаць кнігу – узбагаціцца словам. 2. Брахаць – не цэпам махаць. 3. Жыццё пражыць – не поле перайсці.* |
| 3. Назоўнік – інфінітыў або інфінітыў – назоўнік | *1. Занятак госця – бясконца есці. 2. Здаць экзамен – справа важная.* |
| 4. Перад словамі ***гэта, вось, значыць, гэта значыць,*** якія стаяць пры выказніку | *1. Абгарэлыя руіны – **гэта** раны Беларусі. 2. Ігнараваць мову – **значыць** ігнараваць народ, нацыю. 3. Абыходзіцца з мовай абы-як – **гэта значыць** і думаць абы-як: недакладна, прыблізна, няправільна. 4. Фальклор – **вось** невычэрпная крыніца паэзіі.* |
| 5. Абодва галоўныя члены выражаны лічэбнікамі або адзін з іх – лічэбнік, а другі – назоўнік | *1. Пяць і шэсць – адзінаццаць. 2. Вышыня помніка – дзевяць метраў. 3. Адзінаццаць кіламетраў – адлегласць не малая. 4. Плошча Нарачы – восемдзесят квадратных кіламетраў.* |
| 6. Назоўнік – фразеалагізм з ацэначным значэннем (тыпу *кроў з малаком, стрэляны верабей, хоць вока выкалі, хоць іголкі збірай*) | *1. Твар – кроў з малаком. 2. Карак – хоць дугі гні. 3. Стаіць ладна скроены хлапчына, плечы – касы сажань... 4. Работа па душы. Заробак – дай бог!* |
| 7. Калі В выражаны выклічнікам або выклічнікам і наступным удакладняльным назоўнікам, прыметнікам і інш. | *1. У ей [хаце] яшчэ сцэны – ого, адна смала. 2. Там рыба – ого-го! 3. Яна ў мяне – во чалавек!* |

## Аднародныя і неаднародныя азначэнні

**Практыкаванне 1.** *Прачытайце. Назавіце аднародныя азначэнні і растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку пры іх.*

1. У лесе буяла мноства злой, калючай лясной крапівы. *(І. Мележ)* 2. З-за лесу глядзіць круглы зялёны месяц. *(П. Кавалёў)* 3. Замоўклі белыя прасторы, змарыў іх ціхі зімні сон… *(М. Хведаровіч)* 4. Ён выцягнуў з кішэні вялізную срэбную з сіняй эмаллю цыбуліну гадзінніка. *(У. Караткевіч)* 5. Худзенькая, танюткая жанчына паглядала на мяне. Рысы твару былі выразныя, рэзка акрэсленыя. *(У. Караткевіч)* 6. Я іду ў стары дрымучы лес па знаёмых сцежках і палянах. *(М. Танк)* 7. Цяжкае, халоднае, свінцовае неба, здавалася, назаўсёды ўпала на зямлю. *(Я. Сіпакоў)* 8. Нерухома сядзіць зімародак. Кароткія маленькія чырвоныя ножкі яго моцна ўчапіліся ў кару сука. *(В. Вольскі)* 9. Сані віхрам памчаліся па крыштальнай, наезджанай дарозе. *(М. Лынькоў)* 10. Дождж, халодны, асенні, не пераставаў цэлы тыдзень. *(Я. Колас)* 11. Над абрывістым берагам Нёмана стаяў стары, прысадзісты, тоўсты дуб. *(Я. Колас)*

**Практыкаванне 2.** *Спішыце тэкст. Устаўце прапушчаныя літары, раскрыйце дужкі і пастаўце, дзе трэба, знакі прыпынку. Растлумачце знакі прыпынку пры аднародных членах сказа.*

Дарога дарога.

Дрыжыць млее (ў) далечыні лё…кая блакітная смуга. Яна вабіць цягне да сябе. Смуга ахінае далёкія вёскі ўзгоркі палі пералескі. Хоч…цца хутчэй да…сці да іх убачыць усё вач…ма так, як яно ёсць.

Дарога хутка прыводзіць да тых палян і п…ралескаў. Але смуга зноў далей мігціць. І зноў дал…чынь (на) перадзе, якая вабіць і кліча.

Прырода ра…хіналася пера… танкістамі в…лікім прасторам зменным рухомым – кожную хвіліну ішло (на) сустрач паўставала перад вач…ма новае.

Лясы лугі квітнелі, як (ні) колі, буйна і ўпарта. Ва ўсёй з…лёнай красе стаялі дубы раскідвалі шырока гал…ё з лапчастым рэзным лісцем годна трымалі свае кучаравыя в…ршыні з меднымі галінамі-жыламі сосны, …рвалася на святло на дарогі ўпартая л…хная драбната, ад якой было аж цёмна ў лесе, – рабіны арэшнік б…разн…чок.

Спела азіміна. Пачыналі выганяць …астрыя тру…кі …равая пшаніца аўсы.

*(І. Мележ)*

**Практыкаванне 3.** *Спішыце сказы, устаўляючы прапушчаныя літары і раскрываючы дужкі. Падкрэсліце аднародныя азначэнні адной хвалістай лініяй, неаднародныя – дзвюма. Пастаўце знакі прыпынку.*

1. Тут падавалі бульбя(н, нн)ы грыбны гарохавы фасол…вы супы грэчн…вую п…рловую рысавую кашы. 2. Здавалася, што ў стар…нькім (не) важнецкім (на) выгл…д баяне (с,з)хаваны цэлы

аркестр. 3. Гэта была зграбная маладая ж…нчына ў сціплым але прыгожым адзенні са спакойнымі ўраўнаважан…мі рухамі. 4. Пасля дажджу в…рнулася галасістая зычная вясна. 5. На паляну выб…гла чорная вёрткая куніца. 6. Кароткі летні а…пачынак хацелася правесці дзе (небудзь) на цёплым пя…чотным поўдні, каб пахвасталі ласкавыя ч…рнаморскія хвалі. 7. Пакой быў падзеле(н, нн)ы на (д, дз, дзь)ве часткі тонкай фанернай перагародкай. 8. У жылістых і чэпістых руках старога ўгадвалася (не) малая сіла. 9. Падзьмуў рэ…кі паўночны вецер. 10. З-за лесу выкацілася сонца, іскрыстае цёплае. 11. Домік стаіць на (с,з)кладзе(н, нн)ым з каме(н, нн)ю і высокім падмурку і зухавата паз…рае в…лікімі да бляску вымытымі вокнамі на пасёлак. 12. З кабінкі выл…з прысадз…сты з чырвоным тварам чалавек, апрануты ў жоўты вайсковага фасону фрэнч. 13. Сідарук адмераў крокі паўмёрзлай (с, ш)чыльна ўтаптанай зямлі пляца. 14. У (с,з)робл…ных на скорую руку мелкіх акопах цяжка было ўхавацца. 15. Сухія ломкія спелыя сцяблы спорна клаліся на перавясла. 16. Мне (з,с)даўна палюбіл…ся атул…ныя з…л…нінай садоў ціхія вёскі Старобіншчыны. 17. Анісін назбіраў (с, ш)чэпак збуцвелых альховых б…розавых пянькоў, наламаў сухіх яловых лапак. 18. Алег на былым старажытным замчышчы знайшоў ма(с, сс)іўную прысадзістую (чатырох) вугольную кам…ніцу. 19. У мокрую бл…скучую ас…альтаваную дарогу, нібы ў люстэрка, глядзелася вымытае дажджом вясёлае сонейка. 20. Шэрае асе(н,нн)яе неба, набраклае в…льготнымі ні…кімі хмарамі, навісла над прасторным калгасным полем.

## Аднародныя члены сказа з абагульняльным словам

**Практыкаванне 1.** *Спішыце, расстаўце і растлумачце знакі прыпынку. Назавіце сказы, у якіх пры аднародных членах няма абагульняльных слоў.*

1. Мой час па-рознаму бяжыць то з гулам, як вясновы гром то ціхенька, нібы ручай то скокам-бокам, нібы ліст. 2. Зося прынесла прасціну падушку коўдру. 3. За ўсё за спагаду за сапраўдную людскасць і сардэчнасць я дзякую вам. 4. Жыта ячмень авёс бульба ўсё ўрадзіла. 5. Добра памятае Васілёк толькі агонь дым крыкі плач страляніну. 6. Гаспадыня ўзялася за работу набрала бярэмя дроў унесла ў хату і стала класці ў печ. 7. Усё давялося



рабіць уручную араць і сеяць і касіць і жаць і малаціць. 8. Лена дастала з шафы два кубкі цукар і пачак пячэння. 9. Розныя людзі гараджане рамеснікі гімназісты рабочыя афіцэры сяляне з базараў сабраліся на плошчы. 10. Збожжа жывёлу лес сыравіну акупанты вывозілі ў Германію. 11. І сцэна і фае і зала ўсё ў будынку прыгажосцю захапляла. 12. Мяшок быў зроблены з усялякіх кавалкаў суконных і паркалёвых чорных і белых. 13. Мальвіны і вяргіні і півоні розныя кветкі садзіла Вольга ў гародчыку ля хаты. 14. Побач з бярозамі дубамі і букамі раслі вечназялёныя амандры буйныя фікусы, магноліі лаўры. 15. Усюды ў сініх далях і ў лясах у гарадах і вёсках чутно дыханне вясны. 16. Усцяж плоту Фёдар насадзіў кусты агрэсту парэчак маліны. 17. Юрку трэба было купіць яшчэ гатавальню чарцёжную дошку лагарыфмічную лінейку. 18. Вера даставала рэчы якія ўпрыгожвалі гэтую ўтульную кватэру сурвэткі вазы статуэткі. 19. Усё сваё багацце дзежкі цэбры ліпавыя бочкі вёдры палешукі везлі ў Старочын на продаж. 20. Спаленыя вёскі ямы ад снарадаў і бомбаў пакапаныя пад акопы палі ўсё сведчыла пра недалёкае мінулае жахаў і чалавечых пакут.

**Практыкаванне 2.** *Спішыце тэкст, устаўце прапушчаныя літары і пастаўце, дзе трэба, знакі прыпынку.*

Зімою бацька звычайна в…ртаўся дамоў на зм…рканні а то і позна вечарам. Управіўшыся па гаспадарцы, ён стомл…ны ра…пранаўся. Адубелы цвёрды кажух пах холадам снегам і яшчэ тым блі…кім пахам, які належ…ў толькі бацьку. Потым бацька садзіўся за стол бліжэй да лямпы і запісваў алоўкам у …шытку тое, што рабіў у калгасе ці то капаў ці то вазіў на конях ці то складваў… Маці ў гэты час хадзіла ля печы, у якой патрэсквалі дровы, а на печы заўсёды было так цёпла і ўтульна.

І агонь лямпы на стале і хата з белай печ…у пасярэдзіне і бацька ўсё гэта злівалася ў маёй свядомасці ў штос…ці суцэльнае, адкуль, здавалася, нічога нельга было адняць. І ўсё гэта, са сваім болем і са сваёй радасцю, ляжала ў цэнтры Сусвету, у гэтай цішыні, якая адразу ж пачыналася за парогам у стылым марозным паветры. І чым далей ад двара, тым цішыня большала, як пад ваду ўсё тое далёкае і чужое апускалася: за агародамі, дзе пачыналася балота, за цёмным непралазным лесам.

*(Н. Гілевіч)*

**Практыкавынне 3.** *Спішыце. Назавіце аднародныя члены сказа і абагульняльнае слова (калі ёсць). Растлумачце знакі прыпынку.*

1. Дарожка, і трава, і куст бэзу – усё ззяла ў сонечным бляску. 2. Хата ў сяле сваім старым не вылучалася нічым: ні падмуроўкай, ні сцяной, а ні ўскудлачанай страхой, а ні заторкнутым акном, а ні пахілым комінам. 3. Пайсці ў грыбы ці ў тую рыбу або паехаць на сялібу ці ў млын малоць на хлеб збажыну – усё гэта вабіла хлапчыну. 4. У гэтай вадзяной зараслі хавалася рыба або адпачывала пасля жыравання ці проста ратавалася ад сваіх заклятых ворагаў: шчупакоў і акунёў. 5. Снег павісаў на галлі дрэў, на кустах лазняку, клаўся на бярвенне, упрыгожваў пні белымі шапкамі. 6. Хутка ўсё: і неба, і дарога, і балотныя хмызнякі – патанула ў снежнай завірусе. 7. Старыя гандляркі на ўсе галасы расхвальвалі свой тавар: living розное жалезнае ламачча, іголкі, ніткі, усякую іншую дробязь. 8. Вакол валяліся пярыны, падушкі, самакаты, посуд. 9. Ліўні то аціхалі, то налятaлі зноў і ўсё абмылі, усё падчысцілі, сагналі з двароў і палеткаў бруд, трэскі, салому – усё, што там заставалася пасля неахайнай работы вятроў. 10. Расклалі на стале ўсе свае паляўнічыя прычындалы: капсулі, гільзы, пыжы, бляшанкі са шротам і порахам – і зараджалі патроны жаканамі і карцеччу.

## Адасабленне дапасаваных азначэнняў

**Практыкаванне 1.** *Спішыце, пастаўце прапушчаныя знакі прыпынку, падкрэсліце адасобленыя азначэнні. Адзначце выпадкі, калі адасабленне не патрабуецца.*

1. Цёпла апранутыя яны весела шумелі і зусім холаду не баяліся. *(З. Бядуля)* 2. Сена змочанае дажджом запахла яшчэ мацней. *(К. Кірэенка)* 3. Зазвіняць жалобна крыгі, і бурлівая вада снег размоклы ў час адлігі змые з лугу без сляда. *(М. Багдановіч)* 4. Хутчэй бы прыйшла зіма белая і маладая з малінавымі маразамі, са звонам канькоў на лёдзе і навагодняй ёлкай… *(П. Панчанка)* 5. На тым абшары на шырокім раскошна нівы красавалі. *(Я. Колас)* 6. Засеяныя шчырай рукою палі вакол вёскі роўна зелянелі маладымі ўсходамі. *(К. Чорны)* 7. Пажаўцелы плыве бярозавы лісток у далёкі свет. *(З. Бядуля)* 8. Звон пчаліны стаіць над палянкай. *(П. Пестрак)* 9. Жывой паэзіі крыніца напоіць смагу маладых і будзе светлая бруіцца праз незлічоныя гады. *(П. Глебка)* 10. Горда стаяць магутныя дубы задумёныя і пажаўцелыя. *(М. Гарэцкі)* 11. З бярозавай галінкі надломанай цяклі празрыстыя кроплі соку. *(М. Чарот)* 12. Стаяла лета блізкае да восені. *(В. Адамчык)* 13. Трава рослая густая валілася на бок тугім валам. *(К. Кірэенка)* 14. У любой кнізе заўсёды знойдзеш што-небудзь новае для сябе. *(Я. Маўр)* 15. Нешта новае для нас пачулася ў старой песні. *(Ц. Гартны)* 16. Санітары прынеслі яго раненага. *(І. Мележ)*

## Адасабленне недапасаваных азначэнняў

**Практыкаванне 1.** *Спішыце. Пастаўце прапушчаныя знакі прыпынку, растлумачце іх пастаноўку пры адасобленых недапасаваных азначэннях.*

1. У доміку было пуста і ціха, на дзвярах вісеў маленькі для прыліку замочак. *(У. Краўчанка)* 2. Гэта быў высокі жывы рухавы чалавек гадоў пад трыццаць. *(Я. Колас)* 3. Твар яе нерухомы з маршчынкамі нібы застыў скамянеў і здаваўся значна старэйшым… *(І. Мележ)* 4. Асабліва падабалася Пятруську выводзіць на паперы круглыя ад лінейкі да лінейкі літары. *(А. Кулакоўскі)* 5. Іван Кузьміч з неразлучнай люлькай у зубах глядзіць на мяне. *(Я. Брыль)* 6. Таксама не спіць адзін высокі селянін, гадоў пад сорак. *(З. Бядуля)* 7. Гэта стварыла ёй славу працавітай з залатымі рукамі дзяўчыны. *(Т. Хадкевіч)* 8. Час ад часу балота змяняў лес таксама мокры з балотнай травою з асклізлым ламаччам. *(І. Мележ)* 9. На пні прымасціўся Гарвада сярэдняга росту худы касцісты і ёмкага складу… *(Я. Колас)* 10. Узнікла недарэчнае ў такіх абставінах жаданне засмяяцца. *(Р. Сабаленка)*

## Адасабленне прыдаткаў

**Практыкаванне 1.** *Спішыце сказы, назавіце прыдаткі і словы, да якіх яны адносяцца. Растлумачце, чаму адны з іх пішуцца праз злучок з азначаемым назоўнікам, а другія асобна. Пракаменціруйце ўмовы адасаблення прыдаткаў.*

1. На прызбах пад хатамі сядзяць хлопцы-падлеткі. 2. Спусціўшыся на дно, ныральшчыкі збіралі ракавіны-жамчужніцы. 3. Лашчыць вока Нёман-прыгажун. 4. Каля вёскі Забалоцце дрэм-

люць цёмныя лясы. 5. Жыў на Палессі музыкант Кулік. 6. Салодкі пах праснакоў дайшоў да гультайкі-дачкі. 7. У гарадку жывуць грашавітыя людзі: баяры, княжацкія ваякі-дружыннікі, багатыры-гандляры. 8. У пакой увайшоў капітан Рыбін. 9. Белыя постаці жней-сялянак ныраюць у залатым моры даспелага жыта. 10. Ася кожны дзень трывожыцца за мужа-франтавіка. 11. Тут прыкрываў пераправу разведчык Фядотаў. 12. Насустрач нам плыве параходная баржа «Дняпро». 13. Партызанская брыгада імя Чкалава мужна змагалася з захопнікамі. 14. Над Бярозаю-ракой узнімаецца ранне. 15. Высокі клён, але і ён па пояс дому-гмаху. 16. Стары апрацаваў сухастоіну-яліну. 17. Я з вялікім задавальненнем перачытаў паэму «Сымон-музыка». 18. Каласы-заморкі не схіляліся долу, а стаялі тырчком. 19. Хлопец-шафёр выглянуў з кабіны. 20. Салдаты-сапёры будавалі праз раку пантонны мост. 21. Тэатр імя Якуба Коласа знаходзіцца ў горадзе Віцебску. 22. Падбеглі хлапчукі-аднагодкі. 23. Мы трапілі на Князь-возера. 24. На беразе возера Нарач мы разбілі палаткі. 25. У адным месцы рука натрапіла на штосьці халоднае і агіднае. Гэта была жаба-рапуха. 26. Тарас Іванавіч стукнуў кулаком-малатком перад носам дзяка. 27. Амаль усе ведаюць Багдановіча-паэта, многія чыталі творы Багдановіча-празаіка, большасць нават не чула пра Багдановіча-крытыка. 28. Да берага набліжаўся баркас «Чайка», які цягнуў за сабой караван з трох рыбацкіх лодак. 29. Гвардыі лейтэнант Анатолій Рак забяспечыў магчымасць цэлай часці зрабіць важны крок наперад 30. Усе сімпатыі Багушэвіча на баку селяніна-працаўніка. 31. Партызанскі атрад «За Радзіму» наносіў удары па ворагу, граміў гарнізоны паліцыі.

**Практыкаванне 2.** *Спішыце сказы, падкрэсліце прыдаткі, пастаўце знакі прыпынку. Падумайце, у якіх сказах магчыма пунктуацыйная варыянтнасць.*

**I.** 1. З-за ўзгорка выплыў хутарок-сядзіба дробнага арандатара. 2. Стаіць гэты Кукарэка тоўсты дзядзька на двары фермы… 3. Гаворачы пра будоўлю, Пётр Іванавіч чалавек наогул вельмі жвавы жвавеў яшчэ больш. 4. Далёка наперад выкідваюцца моцныя групы-засады на шляхах адыходу партызан. 5. Сцяпана самага горшага насмешніка і задзіры ў школе завадатара ўсякіх гульняў і боек сёння сярод іх не было. 6. Выдатны паэт і крытык Максім Багдановіч вылучаўся глыбокай і шырокай адукацыяй тонкім разуменнем і пачуццём паэзіі. 7. Гарачы патрыёт Якуб Колас усю сваю творчасць і грамадскую дзейнасць прысвячае справе вызвалення радзімы. 8. Тым часам Толя знайшоў Івана Іванавіча млынара і перадаў яму дзедаву просьбу. 9. Калі ўжо за яго не пайду, то ўжо век мне беднай гараваць дзеўкай. 10. Па вуліцы бегае стараста Адам тоўсты каржакаваты мужык з залатою завушніцаю ў правым вуху. 11. Былы марак ён добра ведаў марскія звычаі. 12. Ззаду застаўся доўгі і небяспечны шлях пераправа праз гнілыя стаячыя рэкі праз страшныя багны. 13. Дзеці Пятра Паўлавіча сямікласнік Міша і пяцікласніца Вера з дня на дзень чакалі бацьку з камандзіроўкі. 14. Маруся падбегла да акна і ўгледзела ў ім панскага аканома Адама. 15. Дарослыя з зайздрасцю пазіралі з берага на нас хлапчукоў але ўзысці на лёд не адважваліся.

**II.** 1. Букрэй быў вядомы ў батальёне як адважная камбінатарская смелая галава. 2. Абодвух іх Андрэй ведаў як землякоў. 3. Трэба залічыць дзеда ў рады Чырвонай Арміі і як чырвонаармейцу выдаць яму стрэльбу. 4. Сённяшняму чытачу Брыль вядомы як майстар лірыка-філасофскіх мініяцюр. 5. Зіна як дзяўчынка засталася дома за гаспадыню. 6. Як сапраўдны мастак, ён працаваў многа але без спешкі. 7. Сцяпана як смелага салдата часта пасылалі ў разведку. 8. Яны прывіталіся як добрыя сябры. 9. На пасяджэнні я выступаў як сведка. 10. Як спецыяліста чыгуначнай справы накіравалі дзядзьку ў падрыўную групу. 11. Берагавыя ластаўкі ці беражанкі як іх яшчэ называюць спрытна завіваліся над вадой. 12. Буялі кусты брызгліны ці бераклету. 13. Я вырашыў пасадзіць у садзе дзве-тры яблыні ці слівы. 14. Чаротніцу або вадзяную курачку не блытайце з чарацянкай. 15. Убачыўшы як зацвіла ляшчына або дзікі арэх Сяргей спыніўся. 16. Воўк або звычайны сабака (у цемры не разгледзець) перабег дарогу. 17. Трыглы або марскія пеўні кукарэкаюць так гучна што хоць вушы затыкай. 18. На галінцы звычайна сядзіць верабей або снягір. 19. У вясковай ластаўкі або касаткі хвост мае форму доўгіх вілачак з вострымі канцамі.

**Практыкаванне 3.** *Спішыце, пастаўце прапушчаныя знакі прыпынку. Растлумачце ўмовы адасаблення прыдаткаў.*

1. Усё сваё жыццё жаўна ці чорны дзяцел праводзіць на ствалах дрэў і ў дупле. *(В. Вольскі)* 2. Стары каваль па прозвішчу Дубовік гартаваў сякеру. *(П. Пестрак)* 3. Флора або раслінасць Белавежскай пушчы зацікавіла вучоных іншых краін. *(«Звязда»)* 4. Я слухаў, як грае на жалейцы вясковы пастух прыгожы і

чысты, як голуб, сівы дзед. *(У. Караткевіч)* 5. Лукашоў старшыня сельсавета сядзеў у прэзідыуме старанна пісаў... *(І. Шамякін)* 6. Светлыя хмаркі дзеткі прастору ціха па небе плывуць. *(Я. Колас)* 7. Акрылены народнай любоўю мудры мастак чулы і добры чалавек Якуб Колас пільна глядзіць на родныя прасторы, дзе будуюць сеюць вучацца яго духоўныя сыны ўнукі і праўнукі і радуецца з плёну працы іхніх рук. *(М. Лужанін)* 8. Як не славіць песняй сакалінай Беларусь рэспубліку маю. *(А. Александровіч)* 9. Непадалёк ад лясных рэчак выводзіць свае чароўныя трэлі сціплы начны спявак салавей. *(В. Вольскі)* 10. Шырокай светлай паласою нясе свае воды Дняпро любімая рака ўсходніх славян. *(В. Вольскі)* 11. Самая старэйшая з дзяцей Ганна і з натуры і з усяго аблічча была вельмі непадобная да сваёй маладзейшай сястры. *(К. Чорны)*

**Практыкаванне 4.** *Спішыце, устаўце прапушчаныя літары, раскрыйце дужкі і пастаўце прапушчаныя знакі прыпынку.*

Якая яна мая зямля? Гэта залатыя палі збажыны з сінімі вочкамі васількоў светлыя ад бяроз гаі, што аглухлі ад птушынага звон… і пушчы падобныя на гатычныя храмы пушчы, дзе алені горда нясуць свае кароны. Гэта б…сконцыя жылы рэк, у якіх плешч…цца бабры і рыба (на) захадзе сонца. Гэта амаль адзіна…цаць тыс…ч азёр чыстых, як усмешка дзіцяці.

Гэта ў мінулым г…раічная і шматпакутная зямля. Безліч разоў (з,с) пачатку дзён грукалі па ёй калясніцы вайны. Але мы дзеці Беларусі ганарымся тым, што ў гэтых войнах яна (ні) колі, запам…тайце гэта, (ні) колі (не) была агрэсарам. Іншая справа, што яна заўсёды мужна і (да) канца бараніла свой ачаг сваю праўду і веру.

Пам…ць маёй зямлі аб гэтым і ў старадаўніх гарадзішчах і ў курганах, пад якімі спяць яе абаронцы, і ў барвовых, быццам ад крыві, мурах замкаў, на палетках, дзе працавіты плуг часам выворвае каме…ную сякерку, меч або гільзы часоў апошняй вайны і ў вечных агнях перад помнікамі салдатам, якіх мы яшчэ пам…таем жывымі.

І, перш за ўсё, пам…ць маёй зямлі гэта людзі і іх вечная (не) ўміручая праца. Араць палі біць студні расціць сады плесці з кам…ня і дрэва карункі дзівосных будынкаў сп…ваць, нібы на адным дыха…ні, песні складаць вершы.

*(У. Караткевіч)*



## Адасобленыя акалічнасці

**Практыкаванне 1.** *Спішыце, пастаўце прапушчаныя знакі прыпынкў. Выдзеліце адасобленыя акалічнасці. Вызначце іх значэнні, спосаб выражэння і ўмовы адасаблення.*

1. Купка дужых дубоў стаўшы роўным паўколам акружала леснікову сядзібу. *(М. Лужанін)* 2. Буслы пакружыўшыся для размінкі над родным дубам пачалі садзіцца на гняздо. *(Я. Брыль)* 3. Не хаваючыся не высільваючыся ашчадна трацячы сілу мерным, спрактыкаваным рухам вадзіў Васіль касою. *(І. Мележ)* 4. Сонца зрабіўшы свой штодзённы кругабег апусцілася зусім нізка і стаміўшыся пачало хіліцца на захад. *(Б. Сачанка)* 5. Жыву не трацячы надзей, бо верыцца ў дабро людзей. *(С. Грахоўскі)* 6. Міхал ідзе туды на поле, дзе Нёман выгнуўшыся дужкай абводзіць лес прыгожай стужкай. *(Я. Колас)* 7. Нягледзячы на малы рост гэтага ксяндза здавалася, што ён хоча запоўніць сваёй асобай увесь зал уверх і ўшыр. *(З. Бядуля)* 8. Дзяўчаткі зарагаталі і падхапіўшы пад рукі сваю меншую сяброўку пабеглі наўцёкі. *(К. Чорны)* 9. Жоўтыя пухаўныя каткі звісалі на вербалозінах купаючыся на сонцы і склікаючы пчолак і чмелікаў. *(Я. Колас)* 10. Мімаволі згадаліся нам страусы, якія прытаміўшыся ад пагоні хаваюць галовы ў пясок. *(У. Дубоўка)* 11. Ён не гаварыў а махаючы кулакамі крычаў у натоўп. *(П. Пестрак)* 12. Паліцаі трывожна пераглянуліся а пачуўшы першыя выстралы хутка пакінулі вёску. *(М. Лынькоў)* 13. Пайшоў Амелька нос павесіўшы, каб лішняй звягі не чуць. *(М. Лынькоў)*

**Практыкаванне 2.** *Кантрольны дыктант.*

Ён пражыў крыху больш як дваццаць пяць гадоў. Ён працаваў у літаратуры ўсяго толькі адно дзесяцігоддзе. Ён выдаў толькі адзіную кніжку паэзіі, якая адначасова была і яго першым зборнікам...

Але, нягледзячы на ўсе гэтыя «толькі», у Максіма Багдановіча, у гэтага знанага і славутага юнака, вось ужо некалькі дзесяцігоддзяў не саромеюцца вучыцца і тыя, хто, выдаўшы па некалькі дзесяткаў паэтычных кніжак, знаходзяцца ў добрай пары сталага і мудрага вопыту; і тыя, хто, набыўшы ясную і светлую разважлівасць, упарта набліжаюцца да філасофскага асэнсавання жыцця; і тыя, хто, часцей за ўсё перарослы паэта па гадах, нясмела і сарамліва збіраюць у далейшую дарогу свой непаслухмяны вырай – першую кніжку паэзіі.

Максім Багдановіч стаіць у нашай роднай літаратуры, на нашай беларускай зямлі моцна і трывала, як глыба. Яго не ссунеш з дарогі, яго не абмінеш абыякава. Каля яго не пройдзеш напышліва і пагардліва. Хочаш ці не хочаш, а мусіш абавязкова азірацца на яго вопыт, на яго асобу, на яго прасторавы паэтычны край. Што ж, вялікі паэт заўсёды стаіць на самым відавоку – ён адусюль відаць.

*(Я. Сіпакоў)*

## Адасобленыя дапаўненні

**Практыкаванне 1.** *Спішыце, пастаўце прапушчаныя знакі прыпынку. Растлумачце ўмовы адасаблення дапаўненняў.*

1. Мы адліць усё патрапім апроч звону векавога таго звону, які ўсе мы роднай моваю завём. *(М. Танк)* 2. Увесь дзень за выключэннем перапынку на снеданне і абед быў прызначаны агляду калгаснай гаспадаркі. *(Я. Колас)* 3. З бакоў апрача садоў і кветнікаў вуліца абсаджана рабінамі. *(У. Дубоўка)* 4. У той вечар для Косціка апрача кніг нічога не было даражэй на свеце. *(С. Александровіч)* 5. Акрамя рыбы ў рэчцы было багата ракаў. *(М. Лынькоў)* 6. Замест адказу матчыны пальцы даволі блізка знаёмяцца з Міколкавым вухам. *(М. Лынькоў)* 7. Раней існавала памылковае ўяўленне аб тым, быццам на Беларусі няма нічога апрача торфу. *(В. Вольскі)*

**Практыкаванне 2.** *Знайдзіце члены сказа, якія неабходна адасобіць, і пастаўце, дзе трэба, знакі прыпынку.*

1. За домам вялікі пераважна фруктовы сад за ім – пустка ўзаранай зямлі. *(У. Караткевіч)* 2. Апошнімі гадамі нешта рэдка ўдавалася натрапіць на такое хвалюючае відовішча бясконцыя жураўліныя караваны. *(К. Кірэенка)* 3. У вядзёрку запраўленая перцам і лаўровым лістом даходзіла юшка. *(М. Паслядовіч)* 4. За адчыненыя вароты пахіствaючыся выйшаў дзябёлы цёмнабароды мужчына. *(В. Адамчык)* 5. Пчала нагружаная салодкім цягучым нектарам перапэцканая мяккім аранжавым пылком варушылася поўзала жыла ў самай зрэнцы кветкі. *(Л. Дайнека)* 6. І сапраўды мінула можа хвілін трыццаць і наперадзе замігцеў цёплы жывы агеньчык такі ружовы і прывабны сярод гэтай золкай і мокрай цемры. *(У. Караткевіч)* 7. З тоўстых нахіленых на шашу вербаў капала талая вада. *(В. Адамчык)* 8. Неабсяжная раўніна роўная як стол была карычневага нават бурага колеру безнадзейна роўная нудная змрочная. *(У. Караткевіч)* 9. Усе чацвёра не любілі ўспамінаць сваё мінулае нават дзяцінства… *(М. Паслядовіч)* 10. Мы стаялі на вузкаватай брукаванай шашы абсаджанай старымі пераплеценымі ў кронах вербамі. *(В. Адамчык)* 11. Лепш за ўсё казкі слухала яна простыя нявыдуманыя праўда для яе шмат у чым незвычайныя – эпізоды бацькавага маленства. *(І. Шамякін)* 12. Прамая вуліца рэзалася ўпоперак кароценькімі вулачкамі з цесна злепленымі дахамі. *(А. Асіпенка)* 13. Усе мы і я ў тым ліку прайшлі праз гэта. *(У. Караткевіч)* 14. У недалёкім завешаным сіняватаю смугою хмызняку шырокім рэхам адгукнуўся тупаваты кароткі стрэл. *(В. Адамчык)* 15. Ён нечага ўсміхнуўся ў свае густыя сіваватыя вусы дастаючы з кошыка міскі хлеб лыжкі і расстаўляючы і раскладваючы ўсё гэта на захопленым з дому кавалку брызенту. *(М. Паслядовіч)* 16. І зноў настала цішыня халаднаватая і глухая. *(М. Паслядовіч)* 17. Асабліва недалюбліваў іх ляснік Жыбурт каржакаваты чалавек з круглым тварам. *(М. Паслядовіч)* 18. Гэтая трава доўгая прамая з калючымі пругкімі мяцёлкамі на самым версе вельмі нагадвала стрэлы з лука што ўпіліся ў зямлю. *(Л. Дайнека)* 19. Якраз тут залатая ад сонца Свіслач улівалася ў срэбную ад сонца Бярэзіну. *(Л. Дайнека)* 20. Аблашчаная сялянскімі рукамі зямля плаціла людзям удзячным ураджаем. *(А. Асіпенка)* 21. Стары Андросік альбо Васіль Сямёнавіч як яго ўсе звалі ў нашым гарадскім пасёлку ішоў на пенсію. *(М. Паслядовіч)* 22. Адзін малы спатыкнуўся ўпаў у ваду а падняўшыся спалохана азірнуўся і відаць баючыся што дастанецца ад маці кінуўся да двара. *(І. Шамякін)* 23. Над Нараччу рос дуб зялёны; ды не хадзіў пры дубе тым ні ўдзень ні ўночы кот вучоны на ланцугу на залатым. *(А. Вечор)* 24. Навокал на многіх дзесяцінах шумеў і хваляваўся пад асеннім дажджом закінуты глухі чорны ад старасці і вільгаці парк. *(У. Караткевіч)* 25. Генька паглядзеў недаверлівым позіркам спярша на бераг увесь застаўлены магутнымі стваламі алешніку потым на вытыркнуты з вады драўляны астравок. *(М. Паслядовіч)* 26. Я чытаю тыя нататкі і як быццам чую ягоны не так даўно абарваны голас добры спагадлівы. *(М. Лужанін)* 27. І тут адбылася адна падзея якая мела пэўнае дачыненне да яго Сямёнавага далейшага жыцця. *(М. Паслядовіч)* 28. Толькі тут на мокрай сцежцы я змог добра разгледзець гэты дом-палац. *(У. Караткевіч)* 29. Яму раптам выразна ўспомнілася шаснаццацігадовай даўнасці размова ў аздобленай разьбою і чаканкай харчэўні ў

самым цэнтры Браціславы. *(А. Асіпенка)* 30. Вы спрабавалі калі-небудзь спаць седзячы прыціснуўшы спіну да муру або лепей да дрэва? *(У. Караткевіч)* 31. А тупат за маёй спінай хоць павольна а набліжаўся. *(У. Караткевіч)* 32. На пачатку зімы таго ж года Марк прыбег з працы чымсьці ўстрывожаны. *(А. Асіпенка)* 33. Валодзя Саламака быў бадай аднаго ўзросту з Сямёнам нават маладзей за многіх падсобнікаў якія падышлі да рыштавання. *(М. Паслядовіч)* 34. Старажытнай пабудовы прысадзісты з вельмі маленькімі акенцамі ён [дом] быў крыты гонтай чыста пабелены меў ганак з чатырма калонамі. *(У. Караткевіч)*

## Зваротак

**Практыкаванне 1.** *Прачытайце. Назавіце звароткі і растлумачце знакі прыпынку пры іх.*

1. Верце, людзі, верце – у дружны рост усходаў і задум, у добры плён на ніве і на сэрцы! *(Н. Гілевіч)* 2. О светлае сонца, прасветлае! Усім ты нясеш і цяпло, і красу. *(Я. Купала)* 3. Плыві, наша песня, далёка, па ўсіх акіянах плыві. *(П. Броўка)* 4. Краса мая, мой Нёман родны, мая любімая рака! Люблю разліў твой шумнаводны і ціхі бераг рыбака. *(А. Русак)* 5. Жыватворнай працы многа ў цябе, вясна-сяброўка… *(У. Хадыка)* 6. Радзіма наша, песня наша, мой боль і сон мой залаты, цывілізацыі інакшай калыскай стала сёння ты! *(П. Панчанка)* 7. Весела, госцейкі, песню спявайце. *(М. Танк)* 8. О шчырасць матчына! Яна нас асвятляе і гартуе. *(М. Хведаровіч)* 9. О, рэкі, рэкі Беларусі сярод лугоў, сярод лясоў! Калі я гімн саткаць збяруся з блакітных вашых паясоў? *(Г. Бураўкін)* 10. Прыйдзі, прыйдзі, вялікі слаўны геній, каб разам апяваць вялікіх дзён красу! *(М. Хведаровіч)* 11. Лета ты, лета прыгожаквяцістае, колькі ты ўносіш аздобы з сабой! *(Я. Купала)* 12. Спі, сыночак, спі, саколік, ды расці! *(Я. Колас)*

**Практыкаванне 2.** *Спішыце, пастаўце прапушчаныя знакі прыпынку. Вызначце, якімі назоўнікамі (адушаўлёнымі ці неадушаўлёнымі) з'яўляюцца звароткі.*

1. Не пакідай мяне мой светлы сум з табой мне хараша на адвячорку хадзіць і слухаць лесу ціхі шум, пакуль суцемак не запаліць зорку. *(Н. Гілевіч)* 2. Эх сябры-браткі Самі знаеце: агню палкага іскры маеце. *(Я. Колас)* 3. Бярозка мая белакрылая Якая ж ты сонейка мілая. Спускаеш пушыстыя вецці і сінімі іскрамі свеціш. *(К. Буйло)* 4. Ах валошка валошка сястрыца рамонка зноў вы побач на ўцеху душы зацвілі. *(Н. Гілевіч)* 5. Жанчыны маці-словатворцы ў час калыханак вы сплялі імя вясне пчале і зорцы ўсім добрым дзівам на зямлі. *(А. Пысін)* 6. Ой вёска вёска пры гасцінцы пад ціхі гоман вербалоз яшчэ з гадоў свайго дзяцінства я пакахаў цябе да слёз. *(П. Трус)* 7. Як радасна мой дружа разумець, што наш народ не пагражаў нікому, не нападаў, не гнаў нікога з дому і ў дом чужы не нёс ніколі смерць. *(Я. Сіпакоў)* 8. Ой радзімае наша Палессе хто не бачыў твайго хараства?.. *(М. Чарот)* 9. Эх лета-лецейка любое ты адцвітаеш залатое!.. *(Я. Колас)* 10. Скачы скачы о любы вецер! *(М. Машара)* 11. Непакой за цябе зямля мая мой хлеб надзённы. *(М. Танк)* 12. Ты чаму цымбаліст сакалочку шэранькі выцінаеш, нібы не вячэраўшы? *(М. Лужанін)*

**Практыкаванне 3.** *Знайдзіце ў сказах звароткі. Пастаўце, дзе трэба, знакі прыпынку.*

1. Спі мой маленькі сыночак спі мая дзетка засні многа з табою мы ночак спаць не заснулі ані. *(Я. Купала)* 2. Расцвітай жа край ты наш палескі! *(А. Русак)* 3. Вы выйшлі ўдалеч maладыя вам доўга крочыць праз гады. Не забывайцеся ж якія вы пакідаеце сляды. *(П. Броўка)* 4. Такая ты зямля мая матуля і вы малюнкі роднае зямлі! Эх шмат чаго вы бачылі і чулі спрадвечныя дорогі і палі. *(Я. Колас)* 5. Ой вы дарожанькі людскія пуцінкі вузкія крывыя! *(Я. Колас)* 6. Вы б раздзеліся а то яшчэ гадзіну чакаць. *(К. Чорны)* 7. А гора ты маё хадзячае! Не лезь ты Хрыстом цябе прашу да печы… *(М. Лынькоў)* 8. Браток! Ці жа вачэй не маеш арлом варону называеш. *(М. Багдановіч)* 9. Дык не гаруй жа брат-нябога дзянькоў вясёлых яшчэ многа! *(Я. Колас)* 10. Сілен княжа караць галаву сілен зняць не скуеш толькі дум ланцугамі. *(Я. Купала)* 11. Вы шуміце шуміце нада мною бярозы асыпайце мілуйце ціхай ласкай зямлю. *(Н. Гілевіч)* 12. Браце выбачай але больш не дакучай. *(Прымаўка)* 13. Ты мой брат каго зваць Беларусам роднай мовы сваёй не цурайся як не зрокся яе пад прымусам так і вольны цяпер не зракайся. *(А. Гарун)* 14. Ну Ігнат глядзі брат не дурэй вучыся. *(Я. Колас)* 15. Ты матуля-Зямля ўсюды будзеш для нас самай яркаю зоркай свяціцца. *(Н. Гілевіч)* 16. Мова пявучая родная мова ты ўладарка нявызнаных скарбаў. *(А. Зарыцкі)* 17. З вялікім святам мой народзе! З вялікім святам краю мой! *(М. Танк)* 18. Пасядзі са мною Максімавіч. *(Я. Сіпакоў)* 19. О дзеўка ўжо як ты свайго сына беражэш ніхто мусіць так

дзяцей не патворыць. *(Я. Сіпакоў)* 20. О словы словы!.. О багатая і ў той жа час такая бедная людская мова!.. Як перадаць мне тое хваляванне тую трывогу надзею і чаканне з якімі я выходзіў з дубняку... *(Б. Сачанка)*

**Практыкаванне 4.** *Спішыце сказы, пастаўце знакі прыпынку. Назавіце звароткі. Растлумачце правапіс у-ў.*

1. Праз цябе дзявочая краса слёзы коцяцца як буйная раса. 2. Бліскаеш ты маланка-бліскаўка скрозь усё неба. 3. Як у люстэрка глядзішся ты ў прыроду чалавек і бярэш ад яе і душэўнасць і ласку і мудрасць. 4. І вось я прыйшоў да цябе развітацца мой кут незабыўны мой горад прыветны. 5. Сонечным і белым нібы залітым сырадоем здаваўся ты горад у тое ранне. 6. Люты ой люты ці добра ногі абуты? 7. Ты не згаснеш ясная заранычка ты яшчэ асвеціш родны край! 8. Прыходзьце даражэнькія мае часцей… 9. Бор шумны бор грозны гамонкай сяброўскай сягоння ты ўзняўся да самых аблок. 10. О журавы ляціце сваёй дарогай вясёлай і шумнай бы крыгаход! 11. Бывай Прыпяць бывай рака-працаўніца рака-чараўніца! 12. Не бядуйце хлопцы другім разам прыходзьце. 13. Яначка ўставай сыночак ужо сонца ўсходзіць! 14. Ідзі ў чыстае ты поле градавая хмара. 15. Дапамажы мне добры чалавек выбрацца адсюль.

**Практыкаванне 5.** *Спішыце, устаўце прапушчаныя літары, раскрыйце дужкі і пастаўце прапушчаныя знакі прыпынку. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў простых сказах.*

За ляском спявалі песню. Віктар Сакольчык ішоў (на)сустрач ёй. (Што)раз м…лодыя песні станавілася выразней і выразней. Увайшоўшы ў лясок Віктар спыніўся паслухаць. Колькі разоў ён марыў пра гэты момант свайго в…ртання! І вось ён настаў: родныя мясціны сустракаюць песняй. Гэта добрая прымета. І раптам (лёгка)лёгка стала Віктару, ногі самі прыбавілі кроку. Праз некалькі хвілін можна было ўжо разабраць словы жартоўнай жніўнай песні «А я ў полі жыта жала …»

Хлопец вы…шаў (на) ўскрай лесу спыніўся пад сасною. На полі сакатала жн…ярка, а следам за ёю дзяўчаты вязалі снапы і спявалі. Песня была (не)новая, ён (не)раз чуў яе ў дзяцінстве ад маткі і старэйшай сястры, калі бралі яго ў жніво на поле.

Вязальшчыцы спявалі шчыра, ад сэрца, і гэта кранула Віктара. Як зачараваны, стаяў ён і глядзеў на бязмежныя палеткі Лагаватай.



«Вось яны, родныя палі! І тая самая груша(дзічка) стаіць, што была каліс…ці вяхой Лаўрэнавага і Паўлавага шнуроў. Даўно няма тых быльніковых межаў і ву…кіх палосак, а яна як з мінулага стаіць сабе на (не)абсяжнай ніве спелага жыта. Загартаваная ў сцюжах і завеях, яна не збаялася нават лютых маразоў саракавога года …»

Міжвольна нахлынулі пачуцці і расхвалявалі Віктара. «Зямелька родная дазволь ступіць на твае грудзі», – так сказаў ён і ў Адэсе, калі сатупіў з трапа на марскі бераг. Віктар прыгнуўся, сабраў некалькі каласкоў у жменю і пацалаваў іх. Асцюкі прыемна заказыталі губы. Ён сарваў колас расцёр на далоні ўзяў некалькі зярнят у рот і сеў на каменні.

Заўважыўшы незнаёмага чалавека дзяўчаты перасталі спяваць і павялі размову, хто б гэта мог быць і чаго яму тут трэба. Потым пачалі працаваць, каб хутчэй дайсці да лесу.

*(А. Пальчэўскі)*

## Знакі прыпынку ў сказах з пабочнымі словамі, спалучэннямі слоў

***Пабочнымі*** называюцца словы, спалучэнні слоў, якія, не з'яўляючыся членамі сказа, выражаюць адносіны гаворачай асобы да зместу выказвання.

Словы ***нават, таксама*** і спалучэнне ***на першы погляд*** ніколі не бываюць пабочнымі.

Слова ***можа,*** скарочанае ў ***мо,*** як правіла, зусім не выдзяляецца: 1. *Мо лепш пачакаць, пакуль вернецца маці? 2. У цябе мо шнур які знойдзецца?*

Некаторыя словы могуць ужывацца то як пабочныя (і тады выдзяляюцца коскамі на пісьме), то як члены сказа. Калі пры пропуску слова структура сказа не парушаецца, то перад намі пабочная канструкцыя; калі ж пропуск слова (слоў) вядзе да разбурэння сказа, то апушчаны член сказа. Параўнайце:

| | |
|---|---|
| *Дождж, **відаць,** зацягнуў надоўга.* | *Дарога з узгорка была добра **відаць.*** |
| *Садок быў, **праўда,** невялікі.* | ***Праўда*** *даражэйшая за грошы.* |
| *Тут, **здавалася,** нікога не было.* | *Лена нам **здавалася** самай прыгожай.* |

Некаторыя словы, што могуць выступаць і як пабочныя, і як члены сказа, патрабуюць асаблівай увагі, напрыклад:

| Слова | З'яўляецца пабочным | Не з'яўляецца пабочным |
|---|---|---|
| *Аднак* | У сярэдзіне сказа | У пачатку сказа |
| *Напэўна, канечне* | У значэнні «відаць», «магчыма» | У значэнні «абавязкова», «безумоўна» |
| *Нарэшце* | Паказвае на сувязь думак, парадак выказвання (у разважанні, апісанні) | У значэнні «пасля ўсяго», «пад канец», «напаследак» |
| *Бадай* | У значэнні «магчыма» | У значэнні «амаль» |

Пабочныя канструкцыі на пісьме заўсёды выдзяляюцца коскамі, напрыклад:

| Значэнне | Пабочныя словы і спалучэнні слоў | Прыклад |
|---|---|---|
| Розная ступень упэўненасці | **Большая**: *безумоўна, бясспрэчна, сапраўды, канечне, вядома* і інш. **Меншая**: *магчыма, мабыць, здаецца, відаць, можа (мо), можа быць, магчыма* і інш. | *1. Пётр, **безумоўна**, не спозніцца. 2. Заўтра, **відаць**, будзе цёпла. 3. Я, **здаецца**, узяў усё неабходнае. 4. Тады, **можа**, сходзім у кіно?* |
| Розныя пачуцці, эмоцыі | *На шчасце, на радасць, на маё задавальненне, на жаль, на бяду* і г. д. | *1. Канцэрт, **на маё здзіўленне**, пачаўся своечасова. 2. **На жаль**, надвор 'е сапсавалася.* |
| Крыніца паведамлення | *Кажуць, як кажуць, як паведамляе, паводле звестак, па-мойму, на маю думку, з пункту гледжання* і інш. | *1. За гэты час, **мне здаецца**, тут нічога не змянілася. 2. **Па-мойму**, ты нешта не дагавор-ваеш. 3. Некалі, **кажуць**, тут быў лес.* |
| Парадак думак і іх сувязь | *Па-першае, нарэшце, такім чынам, дарэчы, наадварот, скажам, апрача таго, між іншым, зкачыць і г. д.* | *1. Я, **між іншым**, тут упершыню. 2. **Значыць**, яны нічога не ведаюць. 3. Пятрусь памыўся, прыбраўся, пад'еў і, **нарэшце**, сеў за ўрокі.* |
| Заўвагі аб спосабах афармлення думак | *Адным словам, інакш кажучы, можна сказаць, ва ўсякім выпадку і інш.* | *1. **Інакш кажучы**, ты мне не верыш? 2. Гэта, **можна сказаць**, абарыгены.* |

Але трэба памятаць:



| Правіла | Прыклад | Каментарый, заўвага |
|---|---|---|
| 1. Пабочныя словы аддзяляюцца ад папярэдняга злучніка коскай, калі іх можна прапусціць ці пераставіць у іншае месца без парушэння сэнсу сказа | 1. *У Міхася загарэліся шчокі, але, **на шчасце**, Надзя нічога не заўважыла. 2. Гэта быў зграбны, плячысты дзяцюк, які толькі абліччам і, **галоўнае**, вачамі нагадваў даўнейшага гарэзу.* | Словы ***на шчасце, галоўнае*** можна прапусціць, сэнс сказаў не губляецца |
| 2. Калі ж пропуск пабочнай канструкцыі немагчымы, то коска паміж ёй і злучнікамі ***а, і*** не ставіцца | *1. Калісьці, тысячы, а **можа,** мільёны гадоў назад, тут было мора. 2. Сцены будынка забурыліся, а **магчыма,** былі збольшага разбураны для нейкіх патрэб.* | Пабочныя словы ***можа, магчыма*** прапусціць нельга: парушаецца сэнс сказаў |

**Практыкаванне 1.** *Выпішыце спачатку сказы, у якіх выдзеленыя словы (спалучэнні слоў) з'яўляюцца пабочнымі, пастаўце знакі прыпынку. Спішыце астатнія сказы, графічна пакажыце сінтаксічную ролю выдзеленых слоў.*

1. З-пад хвой-красунь як на далоні *відаць* і хаты і двары. Чалавек *відаць* валодаў сабою добра. 2. Я быў за старэйшага ў атрадзе і *вядома* ўсе чакалі маёй каманды. Імя гэтага чалавека было *вядома* ўсім местачкоўцам. 3. У дзеда *прызнацца* стрэльба ёсць. Я вырашыў *прызнацца* бацьку. 4. *Нарэшце* дрыгва скончылася. А ў хаце Гэлькі абшарылі паліцыянты ўсе закуткі, камору, вышкі, перайшлі ў варывеньку *нарэшце* ў хлеў. 5. Няма *бадай* па багаццю ўзораў прыгажэйшай пары года, чым восень. *Бадай* ля самай шашы рыпае гармонік. 6. На жывой касці мяса *мусіць* нарасці. На свеце *мусіць* няма нічога мацнейшага за прывычку. 7. Ты *можа* з'еш што, сынок? Час *можа* астудзіць самы вялікі пажар пачуццяў. 8. Здалёк хатка *здаецца* досыць паважнай будынінай. *Здаецца* хтосьці нябачнаю рукой забівае мільёны цвікоў у шэрую роўнядзь вады. 9. У жыцці *бывае* ўсякае. Прадбачанні нават вопытных людзей *бывае* аказваюцца памылковымі. 10. А ты ніколі не слухай, што *кажуць* зайздроснікі і плеткары. На гэтым месцы *кажуць* некалі стаяў горад.

**Практыкаванне 2.** *Спішыце, устаўце прапушчаныя літары і раскрыйце дужкі, пастаўце знакі прыпынку.*

1. Так напрыклад у «Аповесці мінулых гадоў» летазлічэ(н, нн)е в…лося (з, с) сакавіка. 2. Самае горшае здаецца м…нула, ён

падабраўся да моста і мабыць яго н… заўважылі. 3. Можа ты чуў што пра ма…го сына? 4. Сон жа як на злосць н…як н… змыкаў яму вочы. Праўда ўдзень Мікола выспаўся. 5. Прып…ць ра…-плылася тут шырока і мусіць ніколі не ўваходзіць у сва… берагі. 6. Здаецца бяроз і блі…ка няма… 7. Паветра не толькі не халаднела а здавалася пац…плела нават. 8. Пятрок і Кузьма браліся загрудкі доўга вадзіліся саплі і нарэшце раз…шліся. 9. Шоргаюць і рыпяць вароты мусіць адарва(н, нн)ыя жывасілам (з, с) завесаў. 10. Вада ў Нёмане не ідзе а здаецца бяжыць. 11. Зямля здавалася раскол(ва, ыва)лася на часткі… 12. Д…ўгахвостая вавёрка нечым відаць спалоха(н, нн)ая рыжай маланкай узл…тае ўгору. 13. На жаль п…еса так і не была пастаўл…на. 14. Пачалася гутарка людзей, што не бачыліся можа толькі адзін дзень, але ў іх сабралося за гэты дзень шмат навін. 15. Час ад часу пачуеш вурганне галубоў таксама відаць стомл…(н, нн)ых (ад, ат) спякоты.

## Устаўныя канструкцыі

**Практыкаванне 1.** *Спішыце, пастаўце, дзе трэба, знакі прыпынку. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку пры ўстаўных і пабочных канструкцыях.*

1. Алесь, Кастусь і Міхаліна сама найшла на іх часіна на працу зранку выйшлі самі. *(Я. Колас)* 2. Лес корміць. Лес грэе і дровамі і сценамі хат і проста так уехаў у лес, бы ў кажух. *(У. Караткевіч)* 3. Ля лужыны там стаялі ўжо дзве фурманкі і адкуль яны ўзяліся, з іх крадком ссыпаліся людзі, якія шуснулі за канаву ў падлесак. *(В. Быкаў)* 4. Праўда лёс даў нам некалькі буйных рэк не кажучы ўжо пра нязлічаныя малыя, якія саслужылі нам добрую службу. *(М. Ермаловіч)* 5. У розных кутках беларускай зямлі там помнікі з мармуру высечы славутыя колісь друкарні былі гадоў таму ледзь не паўтысячы. *(Н. Гілевіч)* 6. Тэхнічныя культуры такія, як каноплі лён могуць азалаціць калгас. *(П. Пестрак)* 7. Амаль хлопчыкам было яму ўсяго семнаццаць Васіль Быкаў сустрэў вайну. *(П. Панчанка)* 8. Век не пражыць гэта ведае кожны без непакою без дум і турбот. *(К. Кірэенка)* 9. Траўка вылезла ў канаўцы, а ў бары чуваць за мілі музыканты-выканаўцы конкурс майскі аб'явілі. *(Н. Гілевіч)* 10. На аўтара «Новай зямлі» адчувальна ўплываў Міцкевіч «Пан Тадэвуш», а таксама Пушкін «Яўгеній Анегін». *(А. Адамовіч)*



**Практыкаванне 2.** *Спішыце, устаўце прапушчаныя літары, раскрыйце дужкі і пастаўце прапушчаныя знакі прыпынку. Выпішыце (на выбар) сказ, ускладнены ўстаўной канструкцыяй, і зрабіце яго поўны сінтаксічны разбор.*

На геаграфічнай карце абрысы баравога і азёрнага кра… нагадваюць апалены з краёў ліст пергамент…, на якім гісторыя зрабіла шмат паметак. Гэтыя абрысы (не) выпа…ковыя: войны ішлі, як дзень за днём, і ў полымі іх згаралі звесткі, даты, імёны ратаяў, вояў, змагароў.

Лясы ўшацкія – блі…кія сваякі тайгі. Тут мядзве…ь не толькі ў песнях «рыкае ды дзевак пужае».

Лагодная рачулка Ушачка бяжыць у Дзвіну, а з Дзвіной (матуляй) у Балтыку, каб сваёй дало…ню качаць халодную пам…ць вякоў бурштын. Рака Ушача, Ушачка, Ушачанка кожны (па)свойму ласкава называе яе дала імя гораду і сама заплыла ў гістарычныя дакументы. Рака звязвала Ушачы з Полацкам, а гасцінец з Лепеля (так)сама вёў у Полацк.

Скупыя гістарычныя звесткі данеслі ўпамінанне пра Ушачы аж з 1624 года. Пасля першага падзел… (Р, р)эчы (П, п)аспалітай у 1772 годзе Ушачы засталіся за Польшчай і сталі галоўным горадам асобнага павет… Тут збіраліся сеймікі, якія вырашалі ўсе павятовыя справы.

Пра землі пра лясы гавораць самі назвы вёсак Замо…ша, Забало…це, Ліпкі, Гайкі…

Уша…кая зямля выгадавала аднаго з кіраўнікоў паўстання 1863 года, паэта(дэмакрата) Арцёма Вярыгу-Дарэўскага, паэта Фелікса Тапчэўскага, П…труся Броўку, Васіля Быкава, Еўдакію Лось, Сяргея Законнікава...

(Не) перасыхаюць крыніцы роднага слова.

*(Р. Барадулін, В. Ждановіч)*

**Практыкаванне 3**. *Знайдзіце ў сказах пабочныя і ўстаўныя канструкцыі. Пастаўце, дзе трэба, знакі прыпынку.*

1. На выгляд яму было гадоў трыццаць а можа і менш. *(М. Паслядовіч)* 2. Але асаблівую цікавасць безумоўна выклікалі коні. *(А. Асіпенка)* 3. Коні тузанулі вазок я ледзь не выпаў і памчалі кудысьці відаць напрасткі па балоце. *(У. Караткевіч)* 4. Яшчэ раз ценькнула нейкая птушка ага сініца і я страпянуўся. *(М. Стральцоў)* 5. Трымаючыся левай рукой за бервяно гэта быў разбураны вільгаццю і часам ствол калісьці магутнай ліпы ён

плыў шырока і моцна падграбаючы правай рукою. *(Л. Дайнека)* 6. У самае разводдзе калі здавалася ад вёскі да вёскі можна было дабрацца толькі на лодцы ў школе аб'яўлялі канікулы. *(М. Капылевіч)* 7. Саламака не проста працаваў а здавалася панаваў на яшчэ невысока ўзнятым над зямлёю рыштаванні. *(М. Паслядовіч)* 8. Начны сонны вецер пах мокрай травой і здавалася ладанам. *(Л. Дайнека)* 9. Але паўсюль і толькі гэта рабіла лягчэйшай справу маю я сустракаў увагу і дапамогу. *(У. Караткевіч)* 10. Чалавечая прырода тлумачыў ён хлопцам любіць самастойнасць і незалежнасць. *(М. Паслядовіч)* 11. Аднойчы гэта было ў канцы лета мы выпадкова сустрэліся. *(М. Паслядовіч)* 12. Агромністая ўкрытая цёмна-бурым пер'ем птушка бадай на два метры імкліва разгарнула свае магутныя крыллі і рвалася ў паветра. *(М. Паслядовіч)* 13. Нагадак пра былое не парушыў аднак добрага настрою. *(А. Асіпенка)* 14. Я напрыклад пярэчыць не стану. *(А. Асіпенка)* 15. Толя маўчаў мусіць нехаця згаджаючыся са мною. *(В. Адамчык)* 16. Калі да гэтага тэмп майго апавядання быў трохі запаволены, то зараз ён будзе наадварот ці не занадта хуткім. *(У. Караткевіч)* 17. Здаецца гэта было гадоў дзесяць таму назад. *(М. Паслядовіч)* 18. Ад грушы праўда і следу не засталося. *(М. Капыловіч)* 19. За вокнамі вірыла шалёная кудаса як кажуць у нас на вялікую завіруху. *(В. Адамчык)* 20. Сам Салігорск як вядома заснаваны ледзь не над саменькай Случчу. *(М. Паслядовіч)*

### Параўнальны зварот

**Практыкаванне 1.** *Знайдзіце сказы з параўнальнымі зваротамі. Пастаўце, дзе трэба, знакі прыпынку.*

1. Буслы клякочуць бусляняты пішчаць жалобна як шчаняты насы закідваюць угору і просяць есці ў сваю пору. *(Я. Колас)* 2. Шалеў вецер ірваў шкуматаў саламяныя і чаратовыя стрэхі гнуў як не да самага долу голае голле дрэў гойсаў бы апантаны па дварах палях балотах… *(Б. Сачанка)* 3. Ён прачнуўся ў няяснай трывозе як ад штуршка. *(Л. Дайнека)* 4. На выгане трава здавалася сівой як валасы старога. *(А. Асіпенка)* 5. Вада панізілася больш як на метр. *(М. Паслядовіч)* 6. Матылёк як бы дражніў малога. *(Л. Дайнека)* 7. Зарослая травою алея паабапал якой стаяў змрочны як лес парк давяла мяне да агароджы. *(У. Караткевіч)* 8. Раней тут на рэчцы было і ў нядзелю і ў буднія дні як на кірмашы. *(М. Паслядовіч)* 9. Кожная фурманка вызначалася



сваім выглядам як чалавек тварам. *(А. Асіпенка)* 10. Рысы твару былі выразныя рэзка акрэсленыя такія правільныя што згадзіліся б як узор нават вялікаму скульптару. *(У. Караткевіч)* 11. Прыход да Мечыка старога вартаўніка з'явіўся нібы сігналам для больш шырокага наведвання хворага. *(М. Паслядовіч)* 12. Голас яго мяняўся то гучаў глуха як рэха то звінеў як лясны ручаёк. *(Б. Сачанка)* 13. Дождж нібы дачакаўшыся на вуліцы свежага чалавека паліўся як з вядра. *(М. Паслядовіч)* 14. Словы сыпаліся з яго як з дзіравага меха льняное семя. *(А. Асіпенка)* 15. Чучала было нібы жывое. *(М. Паслядовіч)* 16. Уся вёска была перад ім як на далоні. *(М. Паслядовіч)* 17. Учора пад вечар Марк заявіўся з працы як ніколі ўсхваляваны і вясёлы. *(А. Асіпенка)* 18. І ўсюды дзе яны толькі ні праходзілі варушыліся як мурашкі людзі. *(М. Паслядовіч)* 19. Але я не зрушыў з месца стаяў як укопаны. *(Б. Сачанка)* 20. Мечык глядзеў на ўсё гэта як зачараваны. *(М. Паслядовіч)* 21. Вада ў рэчцы ішла чыстая як сляза. *(М. Паслядовіч)* 22. Ён бег як апантаны. *(А. Асіпенка)* 23. Хлапцы як напалоханыя вераб'і разляцеліся ў розныя бакі. *(М. Паслядовіч)* 24. У доме як і звычайна ў такія часы панавала глухая цішыня. *(А. Асіпенка)* 25. Спярша на захадзе паказаліся адзінокія і празрыстыя як дым воблачкі. *(М. Паслядовіч)* 26. Серафім Іванавіч пытаўся чыста рытарычна, але Цімоша, відаць, успрымаў бацькава пытанне як запрашэнне да размовы. *(А. Асіпенка)* 27. Ён хацеў хутчэй вырасці такім спрытным дужым адважным і вясёлым як Якаў. *(Л. Дайнека)*

**Практыкаванне 2.** *Прачытайце. Назавіце параўнальныя звароты. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку пры іх.*

1. Як стужка, віецца дарога між гоняў. *(Н. Гілевіч)* 2. Возера глыбокае, як памяць, ад вады ўзняўся сіні дым, і дубы шырокімі лістамі б'юць, нібы далонямі, над ім. *(П. Броўка)* 3. Маўкліва стаяць цёмныя сосны; бярозкі, нібы абпырсканыя зеленаватаю расою, вось-вось расправяць клейкія лісточкі. *(С. Грахоўскі)* 4. У мроку нікне лес кашлаты, бы нейкі хітры чарадзей. *(Я. Колас)* 5. Ляцяць, як і летась, у вырай з наседжаных гнёзд жураўлі. *(А. Астрэйка)* 6. Я зноў хачу, як і калісьці, з адкрытай, простаю душой на стык дарог знаёмых выйсці… *(Я. Колас)* 7. Там, дзе гулі пшаніцы і жыта, стаяць снапы, як рыжыя браты. *(П. Панчанка)* 8. Гукне вясна і, як ветрам, развее гора-нуду. *(М. Багдановіч)* 9. Навука выхавання, як ні адна з навук, сваім прызначэннем найбольш блізкая народу. *(В. Вітка)* 10. На дварэ

было ўжо не так хмурна, як раніцай. *(І. Мележ)* 11. Пары кругам, быццам бурай, закружыліся віхурай. *(А. Русак)* 12. Алесь думаў, што гэта не хто іншы, як сам кіраўнік падпольнай групы. *(І. Шамякін)* 13. Дрэвы, як чорныя, нямыя веліканы, абступілі дарогу з абодвух бакоў і сходзіліся ўперадзе. *(М. Гарэцкі)*

**Практыкаванне 3.** *Спішыце. Выдзеліце параўнальныя звароты. Пастаўце прапушчаныя знакі прыпынку.*

1. Затоена-ціха нібыта ў дазоры стаіць за сцяною марозная ноч. (*Н. Гілевіч)* 2. Абмыты ўночы цёплымі дажджамі нібы на выстаўцы развесіў сад гірлянды яблыкаў на плот дашчаны. (*Н. Гілевіч)* 3. Над лесам, выплыўшы з туману, стаяў месяц, мяккі і ціхі, ён быў цяпер белы што малако. (*І. Пташнікаў)* 4. Хмель нібы верхалаз не баючыся вышыні чапляўся за няроўнасці чырвоных цагляных сцен за балконы. *(Л. Дайнека)* 5. Каля крамы як звычайна ў нядзелю тоўпілася многа святочнага народу. (*І. Мележ)* 6. Грабель мільганнем, звонам кос трымцяць ліловыя прасторы, і вось нібы ў зялёным моры плыве бухматы воз. *(К. Крапіва)* 7. Жыццё плыве як шумны карабель. *(А. Бачыла)* 8. Вецер па полі гуляе, вые як звер. *(М. Багдановіч)* 9. Вярба як дзяўчына ў каралях стаіць над вірлівай вадой. (*П. Броўка)* 10. З гулкай пушчы як з радыёстудыі салавей вясну абвясціў на ўвесь свет. *(В. Вітка)* 11. З усходам сонца на двары стаялі дружна як салдаты палёў зямлі гаспадары. *(М. Калачынскі)* 12. Раніцамі вясна сее як брыльянты росы. *(Я. Купала)* 13. Як волаты за рэчкаю дубы шатры свае раскінулі над домам. *(Я. Колас)* 14. Уверсе воблакі як судны плывуць у паветраны абшар. *(У. Хадыка)* 15. Пшаніца, жыта на палях, усюды ўраджай, стагі як горы на лугах і гэта ўсё – мой край. *(А. Русак)* 16. Пшывара быў ляснік сярдзіты, апроч таго, не лыкам шыты: нырок, плячыст як дуб стары і з ім да трох не гавары! *(Я. Колас)*

**Практыкаванне 4.** *Спішыце, устаўце прапушчаныя літары, раскрыйце дужкі і пастаўце, дзе трэба, знакі прыпынку.*

Даўно павыгаралі кветкі трава дрэвы, паблякла нават неба, і ўсё гэта здавалася было зараз аднаго рыжага колер... як сонца. Рыжы быў (н...) даўна і...ржэўнік і (н...) вялікія (н...) звезеныя яшчэ ста...кі саломы але цяпер яны паспелі пачарнець і не так свяціліся ў апусцелым полі. Толькі (ў) перадзе на самым узлоб'і пагорка, дзе зімою заўсёды круцілі завірухі і дзе я (што) дня ідучы ў Новыя Вербы пазначаў сце...ку яловымі лапкамі, каб потым в...ртаючыся (не) збіцца з дарогі і (не) завалачыся куды (небудзь) у Лапысіцу, якая схавалася вунь за тым маладым сасоннікам, – толькі там (у) перадзе светла як мая стрыжаная галава бялела аўсянішча. А авёс (з, с)жалі (н...) даўна, дажджоў гэтыя дні (н...) было, і таму яно (н...) паспела пачарнець.

Гэтаю сце…каю мне падабалася хадзіць асабліва летам калі (па) чалавечы задумліва шуміць каласамі поле. Як збочыш на яе са шляху пройдз…ш крыху (ў) перад – і ўжо за табой за сцяблінамі схавалася дарога, і ты адзін сярод густой збажыны задраўшы галаву (ў) гору глядзіш на каласы, якія нахіліўшыся над сце…каю ціха хістаюцца (не) дзе (ў) версе. Ідзеш і адною рукою лёген…ка вядзеш па сцяне жыта. І табе чамус…ці робіцца вельмі радас…на і спакойна, што жыціны падатліва і пру…ка выпростваюцца пасля твае далоні і яшчэ доўга шапатліва шумяць там, дзе ты пра…шоў.

*(Я. Сіпакоў)*

**Практыкаванне 5.** *Спішыце, пастаўце прапушчаныя знакі прыпынку. Адзначце тыя сказы, паміж часткамі якіх знакі прыпынку не ставяцца.*

1. Недзе далёка-далёка паблісквала мокрае вясло і чарнела хісткая рысачка чоўна. *(С. Грахоўскі)* 2. Ноч плыве па адхонах паветраных хваль ды трапечуць уверсе далёкія зоры. *(Э. Агняцвет)* 3. Дзед змоўк і на момант стала ціха. (*П. Каваль)* 4. Дождж усё яшчэ не пераставаў але ў адным месцы хмары як бы расступіліся і аднекуль ужо выглядала неба блакітнае і вельмі свежае. *(Б. Сачанка)* 5. Тут каля акна малінаўка пяе і стукае жаўна. *(М. Багдановіч)* 6. Вузкая хмарка ўсё больш ды больш налівалася чырванню а высокае воблака ўсё святлела траціла ружовасць. *(Я. Брыль)* 7. Панура глядзела асенняя ноч і вецер халодны ляцеў над Бярозай. *(А. Звонак)* 8. Абступілі бераг росны клёны ясені і сосны і дубы ў цяпле вады абмываюць жалуды. *(А. Астрэйка)* 9. Ці абзавуцца ў небе гусі ці дзяцел грукне на сасне? *(Г. Бураўкін)* 10. Сасонкі яшчэ не высокія але ўжо ўвабраліся ў сілу. *(І. Навуменка)* 11. Нямала навальніц бачыла ліпа і не адзін раз перуны білі ў яе верхавіну але яна ўсё вытрымала. *(А. Чарнышэвіч)* 12. То трактарны падаў магутны голас свой то Жодзіна грыміць жалезам самазвалаў то працы мірнай рытм грукоча над зямлёй. *(А. Звонак)*

13. К ночы вецер памалу сціхаў затое аднекуль з шумлівай цемрадзі пачаў накрапваць дожджык. *(Б. Быкаў)* 14. Некалькі хвілін і коннікі павярнулі назад. *(М. Лынькоў)* 15. Вецер патроху цішэў і завея ў полі спакайнела. *(В. Быкаў)* 16. Праз нейкі час вецер разагнаў хмары ў вышыні і дождж сціх. *(І. Мележ)* 17. На кожным чоўне льецца песня або гучыць гармонік. *(А. Чарнышэвіч)*

**Практыкаванне 6.** *Спішыце, устаўце прапушчаныя літары, раскрыйце дужкі і пастаўце, дзе трэба, знакі прыпынку.*

Быў адзін (з, с) тых летніх дзён, якія бываюць мусіць толькі на Беларусі. Сонца пячэ як мага а гарачыні няма: лішак яе паглынаюць і рака і зараснікі аер... ды чарот... і густыя паплавы і (не) пралазны алешнік ды лазняк і б...розы і хвоі і ўс…лякая з...л...ніна, што жыве на...окал дыхае. Шамаціць і запаўняе (не) толькі прыроду але і душу чалавека. (Не) відаць людзей (не) чуваць але гоман… досыць і без іх.

Усім радас…на ў такі дзень. Радас…на і мне. Радасна і вунь таму хлопч…ку гадоў вас…мі, што спуска...цца (з) гары.

Мы сустракаемся з ім на мосце. Ён прыпыня...цца і глядзіць на мяне так, нібы хоча нешта сказаць. Радасць ...часце так і пырскаюць з яго блакітных вачэй. Я разумею яго. Калі і я гатоў усіх абняць у гэты жыватворны дзень, дык што (ж) праві...на адбывацца ў яго мален...кім чыстым сэр...цы? Я лагодна ўс…міхаюся яму ківаю галавой і кажу:

– Добра жыць на свеце браток?

Твар...к хлопчыка засв...ціўся яшчэ больш але ён (ні)чога (не) сказаў. Ды і што ён мог сказаць? Мы і без слоў разумелі адзін аднаго.

Я (па) ціху ішоў міма а хлопчык нібы той сланечнік паварочваў следам за мной свой круглы твар...к. І з вачэй яго (так) сама пырскала ...часце і (так) сама здавалася, што ён вось (вось) (не) шта скажа. Скажа, што на...та прыемна ў такі дзень басанож скакаць на мос...це ды махаць с…вежым ду...цом, што ў грудзях яго цяпер вельмі цесна і а...туль (не) шта выпірае, што ўвесь с…вет вельмі прыгожы і добры ды і на...гул усе дзя...кі і цёткі прыгожыя і добрыя... Ён (ні) чога (не) казаў толькі таму, што (не) ўмеў выказаць такіх думак і пачу...цяў. Ды яно і (не) трэба было – я і так усё разумеў. Хіба я сам каліс…ці (не) быў такім як ён? Хіба я сам (не) а...чуваў радас...ці жы...ця? Асабліва ў такі цудоўны дзень.

*(Я. Маўр)*



**Практыкаванне 7.** *Прачытайце. Спачатку выпішыце сказы з параўнальнымі зваротамі, потым – з устойлівымі выразамі і нарэшце, сказы, у якіх параўнальныя злучнікі ўваходзяць у склад выказніка. Пастаўце знакі прыпынку.*

1. Кастусь сеў на мя…кую як падушка рудую купіну. 2. На кра… дзялянкі як бацька і як вартавы ўзвышаецца стары волатдуб. 3. Жанчына нібы захліпнулася енкам. 4. Са сцяблінак мя…кай расліны паказваецца густы белы як малако сок. 5. Саша хацеў расказаць пра дзяўчыну як можна больш добрага. 6. Словы дзя…ькі гучалі як прароцтва. 7. Жданкевіч прышпорыў каня і пад…ехаў да палісаднік… як запраўскі кавал…рыст. 8. Гэты па…коўнік быў падобны да мяне як дзве кроплі вады. 9. Дрэвы як нямыя в…ліканы а…ступілі дарогу з абодвух бакоў. 10. Плюхнула бы камень з разгону ёмкая рыб…на. 11. Поле як белы чысты абрус на стале. 12. На сам…м дне вадаём… л…жыць што калода вусаты сом. 13. Зіма нібы злавалася за сваё спазненне. 14. Н… адно дрэва не шуміць так трывожна і глуха як …лка. 15. Хлопцы беглі як жару ўхапіўшы. 16. Косы як чысты лён. 17. А стрэлкі гадзінніка быццам хто прывязаў. 18. Дзявочыя шчокі запунсавелі нібы тыя ружы. 19. Заразіў фу…бол усіх як грып. 20. Воблакі нібы табун на сін…м неб… 21. Усё відаць як на далоні. 22. Дзіўным здавалася Лабановічу, што такое в…лікае сяло як Мікуцічы н… можа справіцца з грэбл…ю. 23. Дуб як вежа вартавая. 24. Іван сядзеў у кутк… як мыш пад венікам. 25. У паветр… в…ліся жаваранкі і як срэбрам сыпалі сваімі песнямі. 26. Бы закаханая дзяўчына глядзіцца пышная вярбіна. 27. Вайна грымнула як маланка з яснага неба. 28. Ка…матыя хмары нібыта з аўчыны. 29. Нібы ў клешчы браў мароз у абдымкі Надзіна цела. 30. Па межах шырокіх палёў то там то тут параскідаліся як маладзіцы ў час жніва дзікія грушы. 31. Капа цёмных валасоў на галаве як незавершаны стог.

## КАНТРОЛЬНЫЯ ЗАДАННІ

### ТЭСТ 1

**1.** *Адзначце сінтаксічныя канструкцыі, якія не з'яўляюцца словазлучэннямі:*

1) спартыўны марш;
2) рабочы дапамог;
3) прыгожы і выхаваны;
4) не сказаць ні слова;
5) дзевяноста першы.

**2.** *Адзначце сказы, у якіх выдзеленае слова з'яўляецца дапаўненнем.*

1) *Крадком* апускаўся на зямлю вечар, дыхаючы свежасцю зарэчных лугоў.
2) Ва ўсіх сферах дзейнасці *чалавек* не можа абысціся без слова.
3) Ціхі шум дрэў закалыхваў, нібы матчына песня, і Міхась ледзь стрымліваў *сябе*, каб не заснуць.
4) Памяць часам асабліва востра нагадвае *перажытае*.
5) Пайшоў вялікі дождж, таму Кірыл прапанаваў *вярнуцца*.

**3.** *Адзначце сказы, у якіх на месцы пропускаў абавязкова ставіцца працяжнік.*

1) Ліпень _ месяц, калі цвітуць і духмяняць ліпы.
2) Валя з маленства лічыла, што яе маці _ самая добрая і самая разумная.
3) Ехаць па лесе _ адно задавальненне.
4) Вясенні луг _ што выстаўка народнага мастацтва.
5) Адвечнае дрэва _ дуб.

**4.** *Адзначце сказы з прапушчанымі знакамі прыпынку.*

1) Чытаю кнігі, працую і адгукаюся душой на кожную новую прыкмету вясны.
2) Вы заўважыце на снезе самыя мудрагелістыя сляды і ланцужкі, і крыжыкі, і дробныя пацеркі.
3) Натхнёна і горда, і смела вальс сонечны ў Вене гучаў.
4) Не маўчыць, не сціхае, супакою не мае, ходзіць рэха, блукае, выйсця з лесу шукае.
5) Душу сціскае болем не то смутак, не то жаль.

**5.** *Адзначце сказы, у якіх знакі прыпынку пастаўлены правільна.*

1) Барабаншчык, нібы капітан карабля, узвышаўся над усімі музыкантамі.
2) Фурманка, быццам мурашка, паволі выпаўзала з далёкага лесу.
3) Дзядзька Ігнат застаўся ў хаце з дзецьмі, а мы без яго як без рук.



4) На поплаве росы, як кропелькі мёду.
5) Ефрасіння Полацкая – наша святая, якую здаўна шануюць, як нябесную заступніцу беларускай зямлі.

**6.** *Адзначце сказы, у якіх неабходна выдзеліць знакамі прыпынку азначэнні.*

1) Поўны хвалявання і асаблівай ахвоты на самыя чыстыя і шчырыя словы я ў думках высноўваю пісьмо да цябе.
2) На голлі бярозкі адчуўшы вясну жвавей заварушыліся вераб'і і сініцы.
3) Мне штосьці падабалася ў яе твары адкрытым і вясёлым.
4) Ласі, алені і дзікі, калі натрапяць на палетак аўса, ядуць яго стоячы, а мядзведзь – седзячы.
5) Дзікае паляванне магло запужаць любога апрача Андрэя.

**7.** *Адзначце сказы, у якіх набраныя курсівам словы (словазлучэнні, сказы) трэба выдзеліць коскамі.*

1) Жавейка ціха, не спяшаючыся *а куды яму спяшацца?* ішоў па тратуары, не выбіраючы сушэйшага, не зважаючы на лужы.
2) Ахіні бела-белым крылом вечаровую вуліцу *бусел*.
3) Надвор'е *аднак* не змяніла планаў Сашы.
4) Пад вярбой днём быў пастаянны халадок, таму *відаць* сюды любілі сыходзіцца палуднаваць і адпачываць жнеі.
5) Шум хуткай вады запаўняў усё навокал, *нават* глушыў ціўканне птушак.

**8.** *Адзначце сказы, у якіх на месцы пропускаў ставяцца коскі.*

1) Кідаюць зоры срэбра ў крыніцы _ а я лаўлю яго сваёй рукой.
2) Гады прайшлі _ ды я ўсё помню твой першы крок насустрач мне.
3) У небе зоры міргаюць, гараць _ і зззяе яскравага месяца круг.
4) Колькі птахаў пявучых у родных лясах _ і колькі нот непаўторных у іх галасах!
5) Яшчэ пару рыўкоў _ і сініца ў руцэ.

**9.** *Адзначце сказы, у якіх трэба паставіць тры коскі.*

1) Каля крынічкі кіпела жыццё бо кожнаму хацелася стаць бліжэй да вады каб палюбавацца на ўласнае хараство ў яе люстры як гэта любілі рабіць прыгожыя краскі.
2) Так ярка прыпомнілася Міхалку свая вёска што каб меў крылы то ўзняўся б і паляцеў.
3) Са столі звісала люстра якую тут называлі панікадзіла і якая раскідала па царкве зыркае святло ад запаленых на ёй свечак.
4) Умомант раптам не стала таго чым цешылася аб чым днямі і начамі трызніла-марыла да чаго рвалася душою.

5) Я шчаслівы што ў суджаны час нарадзіўся на гэтай зямлі дзе такія густыя лясы і такія спакойныя рэкі.

**10.** *Адзначце сказы, у якіх на месцы пропускаў трэба паставіць двукроп'е.*

1) Напэўна, матчына доля такая _ сыноў гадаваць, выпраўляцьударогу.
2) Дабро прыносіш добрым людзям _ з табою людзі як браты.
3) Максім пранёс праз усё жыццё простую ісціну _ слова павінна мець цвёрдую цану.
4) Цвітуць лугі _ жаўцее проса _ уздымае жыта каласы.
5) Пульсуе радасць у прасторах _ залатыя свецяцца агні.

**11.** *Азначце сказы, у якіх знакі прыпынку пастаўлены правільна.*

1) Не тое лепшае што навейшае, а тое лепшае што раднейшае.
2) Калі ў сакавіку вясна была яшчэ нясмелая, то ў красавіку яна ўжо ідзе на ўсю нагу: ёю пахне і вецер, і кветка падбелу, і песня жаўранка.
3) Жыццё каля чыгункі мае свае перавагі: бачыш многае з таго, што дзеецца на свеце.
4) Вядома, што часта настрой чалавека залежыць ад надвор'я: свеціць сонейка – і на душы светла.
5) Ночы золкія, пранізлівыя, халодныя, і калі часам не бывае дажджу, выбліскваюць зоры.

**12.** *Адзначце сказы з простай мовай, у якіх знакі прыпынку пастаўлны правільна.*

1) «Дзіўна, чаму я раней не заўважаў такіх здольнасцей?» – спытаў настаўнік у Сашы.
2) «Хлопцу шаснаццаць гадоў – працягвае Несцяровіч. – Праз два гады ён будзе паступаць у інстытут».
3) «Можна? – не чакаючы адказу, зайшла дзяўчына і з парога прадставілася: – мяне завуць Агнія».
4) «Ад працы, – гаварыла Ганна сыну, – чалавек ніколі горшым не робіцца».
5) «А як жа кумка маецца» – кума у кумы пытаецца.

**13.** *Выпішыце граматычную аснову няпэўна-асабовага сказа.*

1) Бяздоннай бочкі не напоўніш.
2) Маладую спявачку слухалі з вялікім задавальненнем.
3) Роўная стужка лясной дарогі.
4) Незадоўга перад вечарам сабралася на дождж.
5) Люблю лугі квяцістыя, палеткі каласістыя.



## ТЭСТ 2

**1.** *Адзначце сінтаксічныя канструкцыі, якія не з'яўляюцца словазлучэннямі:*

1) расцвілі пралескі;
2) местачковы жыхар;
3) ціха і цёпла;
4) сто адзін;
5) атрымалася незнарок.

**2.** *Адзначце сказы, у якіх выдзеленае слова з'яўляецца азначэннем.*

1) Незвычайнае хараство і зладжанасць чуецца нам у гучанні *роднага* слова.
2) Ветрык *закаханым* лагодна гладзіць твар.
3) З лесу выйшаў грыбнік, *мокры ад расы*.
4) Прывычка *чытаць* ніколі не пакідала Алеся.
5) Поле *шырокае, заснежанае*.

**3.** *Адзначце сказы, у якіх на месцы пропускаў абавязкова ставіцца працяжнік.*

1) Журавіны на зялёным імху _ што пацеркі.
2) Цёплыя, сардэчныя ўспаміны _ самы лепшы помнік на зямлі.
3) Найлепшы для чалавека доктар _ лес.
4) Жыць з бацькамі ў згодзе _ прызначэнне лёсу.
5) Летняе неба _ у дымнай смузе.

**4.** *Адзначце сказы з прапушчанымі знакамі прыпынку.*

1) Вясной кожны раз усё іначай пахне і свеціць, і плыве.
2) Дзікі перарылі ўсю паляну ў пошуках ежы раслін, каранёў, насякомых і лічынак.
3) Абяцаў я калісьці табе падарыць усе мары і сны, усе скарбы і кветкі зямлі.
4) Мядзведзь павярнуўся і скаціўся з дарогі ў густы зарослы крапівою і маліннікам, перавіты хмелем алешнік.
5) Над паплавамі слаўся шызы, настоены на водары атавы і спелага жыта туман.

**5.** *Адзначце сказы, у якіх знакі прыпынку пастаўлены правільна.*

1) Дождж, які яшчэ нядаўна ліў, як з вядра, спачатку падрабнеў, зытам перастаў зусім.
2) Лёд, бы камень самацветны.
3) Стройны лес і горды выглядам, нібы раць, што імкнецца ў бой.
4) Таццяна Макараўна на ўсё жыццё была для Яніны, як маці.
5) Вясновыя палёсткі, як імгненні жыцця, зрываліся і ляцелі, асыпаючы, усцілаючы сабою зямлю.

**6.** *Адзначце сказы, у якіх неабходна выдзеліць знакамі прыпынку акалічнасці.*

1) Завіруха гула не змаўкаючы.
2) Вільготная свежасць паветра настоена на водары начных прыгажунь белых фіялак.
3) Бадзёрая, з дажджынкамі на вейках прыходзіш ты да мяне ў адведкі.
4) Трактар дайшоў да канца палетка і завярнуўшыся заняў новыя барозны.
5) Мінула ноч – і цемра расплылася рассунуўшы прасторы над зямлёй.

**7.** *Адзначце сказы, у якіх набраныя курсівам словы (словазлучэнні, сказы) трэба выдзеліць коскамі.*

1) Жадаю вам *людзі* ўсміхацца ў добрых снах.
2) Майстрамі самых імклівых «чаек» *так завуцца лодкі-пласкадонкі* славіцца наша сяло.
3) Хоць у кватэры ўсё было па-ранейшаму, Саша *аднак* адчула непрыемную пустату.
4) Сонца не ўзышло, а *менавіта* выйшла з-за хмары шырокімі косамі.
5) Маладая тоненькая ліпка, што *мабыць* нядаўна выкінула да сонца лічаныя лісточкі, у сваёй безабароннай адвазе здавалася госцяй з іншага свету.

**8.** *Адзначце сказы, у якіх на месцы пропускаў ставяцца коскі.*

1) Лёгкае пяро _ ды на страху не закінеш…
2) У цішыні часта і звонка падалі кроплі бярозавіку ў бляшаны бачок _ ды ледзь чутна шапацела голле.
3) Гаворыць і ветрык ласкавы _ і птушкі гавораць, і травы.
4) Як далёка заляцела наша родная песня _ і як прыйшлася яна многім даспадобы!
5) Ёй толькі слова сказаць _ і ў сэрцы юначым успыхне агонь.

**9.** *Адзначце сказы, у якіх трэба паставіць тры коскі.*

1) На вялікім замчышчы дзе калісьці стаяў сярэдневяковы замак узвышаюцца дзве напаўразбураныя вежы ад якіх патыхае сівой мінуўшчынай.
2) Калі вораг падыдзе да нашых чыстых крыніц яны перасохнуць каб не даць яму вады.
3) Прыемна назіраць як кланяецца камбайну збажына як планкі матавіла хапаюць сцябліны і яны валяцца на транспарцёр.
4) Вы не раз заўважалі што калі распускаецца лес здалёк ён выглядае жаўтавата-зялёным.
5) Чутка ёсць што ў лясной лагчыне дзе туман на галіны сядае празрысты ручай з-пад калоды ў свет выцякае.

**10.** *Адзначце сказы, у якіх на месцы пропускаў трэба паставіць двукроп'е.*

1) Меднастволы, як выліты, высіцца бор _ зацвітае на ўзлессі блакітны чабор.
2) Так ужо наканавана небам _ маці дзеліцца з дзецьмі душою, як хлебам.
3) Тут трэба быць пільным _ у верасе заўсёды хаваюцца хітрыя баравікі.
4) Поле спускалася краем у лагчыну _ вілася-пятляла сярод лугавіны спакойная рэчка.
5) Сваё сябрам адкрыеш сэрца _ душу сяброў пазнаеш лепш.

**11.** *Азначце сказы, у якіх знакі прыпынку пастаўлены правільна.*

1) Наступіў час ад'езду ў Яраслаўль, але развітвацца не хацелася: спадабалася Максіму ў Ракуцёўшыне.
2) Гадзіннік не звоніць: я сам так зрабіў, каб ён не трывожыў калі працуеш.
3) Васіль паслухаў, што чуваць з Чарнушкавага двара, пачакаў, ці не пачуе Ганнінага голасу, але там было ціха.
4) Гарадок ляжаў на маёй дарозе з Мінска дамоў, але, калі ехаць чыгункай, то абавязкова трэба было рабіць перасадку.
5) Усходзілі, заходзілі свяцілы, буялі травы, замеці мялі, а мне тугія мроіліся крылы, што нас цяпер над светам паднялі.

**12.** *Адзначце сказы з простай мовай, у якіх знакі прыпынку пастаўлены правільна.*

1) «Я ведаю вас, – нарэшце азываецца спадарожнік. – І вы мяне ведаеце. Вы працавалі ў газеце і часта пісалі пра леспрамгас».
2) «Дарагія мае, – без усялякага ўступу загаварыў старшыня, – яшчэ раз дзякую вам за вашы старанні, за вашы мазалі!»
3) Нявестка запыталася: «Што вы шукаеце».
4) «На гэты раз інтуіцыя меня не падвяла» – думаў Іван Васільевіч.
5) «Ледзь не перакуліліся, – скінуўшы газ, прыцішана прагаварыў Пятрусь і, зірнуўшы на жонку, дадаў: – Вось паездачка была б».

**13.** *Выпішыце граматычную аснову абагульнена-асабовага сказа.*

1) Зробім перапынак на трыццаць хвілін.
2) Коўзкі тоненькі лядок.
3) Абяцанага тры гады чакаюць.
4) За песні і весялосць празвалі Васіліну ў вёсцы вяснянкай.
5) У лесе было ціха і вільготна.

## ТЭСТ 3

**1.** *Адзначце сінтаксічныя канструкцыі, якія не з'яўляюцца словазлучэннямі:*

1) дваццаць пяты;
2) яснее небасхіла;
3) зжаць своечасова;
4) ганарыцца дачкою;
5) ажыў і зазвінеў.

**2.** *Адзначце сказы, у якіх выдзеленае слова з'яўляецца дзейнікам.*

1) *Чулы* не пройдзе міма, паспагадае, дапаможа.
2) Пасля спорнага дажджу *пожня* густа парасла маладой травой, а бліжэй да бярэзніку – зайчыкавай капустай.
3) *Вучыцца* – добрая справа.
4) Мір вам, *людзі*, *лясы* і *дубровы*.
5) З прыездам *Толіка* ў леснічоўцы як бы пасвятлела.

**3.** *Адзначце сказы, у якіх на месцы пропускаў абавязкова ставіцца працяжнік.*

1) Жывая мова _ багацейшая за любы, нават самы поўны слоўнік.
2) Яблыні ў маі _ нібы нявесты.
3) Пчальнік _ гэта месца, дзе стаяць вуллі з пчоламі.
4) Ужо немаладога веку чалавек _ наш доктар.
5) Вудзіць рыбу зімовым марозным днём на скаванай лёдам рацэ _ цікавы занятак.

**4.** *Адзначце сказы з прапушчанымі знакамі прыпынку.*

1) Усё навокал тое ж, як і ў кожную вясну і адліга, і лужыны, і ласкава-зябкая свежасць сакавіцкіх вятроў.
2) Абагнуў сяброў ручай, выслізнуў з-пад самых ног, знік, прапаў, зашыўся ў мох.
3) Замірае, сціхае мая залатая дуброва, асыпае, скідае на дол свой задумлівы ўбор.
4) Хлопцу ўсё часцей успаміналася роднае сяло ды клён пад акном бацькавай хаты, ды цёплыя рукі матулі.
5) Сонечная, ясная звонкая ад спеву птушак раніца.

**5.** *Адзначце сказы, у якіх знакі прыпынку пастаўлены правільна.*

1) Восенню дрэвы, быццам зацвілі залацістымі кветкамі.
2) Голас Алёнкі звінеў, як ручаёк.
3) Убранне кожнай птушцы прырода здолела пашыць, няхай на ўсё жыццё адзіны, ды гарнітур, як мае быць.
4) У зімовыя дні сядзіць дзяўчына за кудзеляй, як кветка, і вядзе нітку за ніткай.
5) Амаль кожны верш Янкі Купалы мы разглядаем, як дзённік-споведзь, па якім можна ўзнавіць шлях паэта.

**6.** *Адзначце сказы, у якіх неабходна выдзеліць знакамі прыпынку прыдаткі.*

1) На самым пачатку вераснёўскай раніцы мяне сустрэлі выбегшы з боку крэпкія чорнагаловыя баравікі.
2) Дзесяцігодка для яе яшчэ нявопытнай настаўніцы – гэта нешта таемнае, нязведанае.
3) Ліда пляменніца за якія тры-чатыры гады стала дарослай дзяўчынай.
4) У калядныя вечары людзі апрача дробязных, неістотных хатніх спраў нічога не рабілі.
5) Самай выдатнай фігурай Адраджэння быў Францыск Скарына сын купца з Полацка.

**7.** *Адзначце сказы, у якіх набраныя курсівам словы (словазлучэнні, сказы) трэба выдзеліць коскамі.*

1) Вялікія, румяныя, адно ў адно яблыкі *аднак* кіслыя.
2) Упускаем у сэрца зіму і *на жаль* не можам ужо без зімы.
3) Больш вольна адчуваў сябе Вадзім *менавіта* ў дарозе, асабліва сярод шырокага поля, калі добра думаць, марыць, успамінаць.
4) *Сосны далёкія і блізкія сосны* сэрцу вы любыя з вёснаў да веснаў.
5) Слёзы *адкуль яны ўзяліся?* нястрымна лінулі з вачэй.

**8.** *Адзначце сказы, у якіх на месцы пропускаў ставяцца коскі.*

1) Хай свята дружбы лепшым будзе _ і векам дружбы наш завецца век!
2) Ты валошкі заўсёды любіла _ а я заўсёды любіў сон-траву.
3) Бабры майструюць свае норкі _ і звонка цокаюць вавёркі, падлічваючы арэхі.
4) Тут, каля крыніцы, калісьці была капліца _ і штогод спраўляўся кірмаш.
5) Дзве-тры хвіліны _ і самалёт знікне ў сіняве.

**9.** *Адзначце сказы, у якіх трэба паставіць тры коскі.*

1) Найвышэйшая прыгажосць тая што пазнаецца з дзяцінства бо яна глыбей западае ў душу.
2) Праз прасветы ў сасняку відаць было як за ракой што дымілася густым туманам святлеў небасхіл.
3) Асінкі як быццам хацелі сказаць людзям што пакуль яны гараць і грэюць неба няма чаго баяцца халадоў.
4) Я рад зялёнай ніве што шуміць у полі таму дубу што над рэчкай песціцца ў прыволлі.

5) Калі зойдзецца сэрца ад болю і прыстану зусім на хаду пры дарозе ці ў ветраным полі ў даспелыя травы ўпаду.

**10.** *Адзначце сказы, у якіх на месцы пропускаў трэба паставіць двукроп'е.*

1) Хлеб у возе _ няма бяды ў дарозе.
2) Ноч гусцее _ пагасла зара _ зорка срэбная ўпала ў ваду.
3) Побач з пшаніцай пасеялі лён _ побач з рабінай красуецца клён.
4) Яшчэ і цяпер у сялянскіх хатах жыве даўні звычай _ фотакарткі бацькоў і дзядоў многія трымаюць пад шклом у рамках на сцяне пры покуці.
5) Сэрцу быць гадзіннікам нягожа _ спыніцца – ужо не завядзеш.

**11.** *Азначце сказы, у якіх знакі прыпынку пастаўлены правільна.*

1) У ліхтары, падвешаным над ганкам, палала свечка, і агеньчык трымцеў яркай хусткай, якой, здавалася, хтосьці адчайна махае.
2) Быў бедным – спачувалі, стаў багатым – зайздросцяць, але ўсё тыя ж.
3) Дрэва жыве, пакуль яго сілкуюць карані, а народ жыве, пакуль ён памятае сваю гісторыю.
4) Вопытныя паляўнічыя сцвярджалі – ваўчыца нічога не ела з таго дня, як забралі яе ваўчанят.
5) Тады змаўкаюць птушыныя спевы, і сонца на момант згасае тады і падаюць зноўку пакутныя дрэвы, калі ў вёсцы маёй паміраюць дзяды.

**12.** *Адзначце сказы з простай мовай, у якіх знакі прыпынку пастаўлны правільна.*

1) «Прыехаў, сынок? – спытала маці і мякка дадала: – Я цябе даўно чакаю».
2) «Вярніся, неслух!» – пачуў Мікола дзедаў загад, але і не падумаў спыніцца.
3) «Я не веру, Маргарыта Казіміраўна, – запярэчыў Усевалад, – каб чалавек з такой чулай і харошай душой, як у вас, быў помслівы і злаславы».
4) Заўсёды баішся пачуць у адказ – «Мне, прабачце, цяпер не да вас».
5) «Тут на цябе вельмі сур'ёзная скарга» – гаворыць Агурскі.

**13.** *Выпішыце граматычную аснову назыўнога сказа.*

1) Чакайце мяне ў госці.
2) Учарашняга дня не вернеш.
3) Мудрая восеньская цішыня.
4) На балоце калісьці капалі торф.
5) Пахне марозікам.



## ТЭСТ 4

**1.** *Адзначце сінтаксічныя канструкцыі, якія не з'яўляюцца словазлучэннямі:*

1) завяршаючы работу;
2) птушкі пераклікаліся;
3) восемсот сем;
4) нібы раса;
5) крочыць лесам.

**2.** *Адзначце сказы, у якіх выдзеленае слова з'яўляецца акалічнасцю.*

1) Нарэшце, *акружаная* дзецьмі баба Васіліса пачала спяваць.
2) Кастусь, *напэўна*, упершыню бачыў Дунай, славутую раку, апетую ў песнях і легендах.
3) Вятрыска-непаседа нам услед *гарэзліва* сваволіў.
4) *Дзе* нам баліць, там і душа: з душы ўвесь чалавек.
5) Дуб, што стаяў каля вёскі, доўга не падпарадкоўваўся агульным законам восені, але, *адчуваючы сваю сілу і моц*, скарыўся ёй у апошнюю чаргу.

**3.** *Адзначце сказы, у якіх на месцы пропускаў абавязкова ставіцца працяжнік.*

1) Кожны з нас_ адказны за лёс краіны.
2) Вочы маці _ акно вечнасці.
3) Восень _ прыдумаць лепшага нельга.
4) Срэбраны месячык _ што серп, хораша свеціць ён з неба.
5) Выдатны доктар _ мая сястра Вольга.

**4.** *Адзначце сказы з прапушчанымі знакамі прыпынку.*

1) Беларускае слова раскашуе ў творах Васіля Віткі, узбагачае дзяцей духоўна эмацыянальна.
2) Усё бывала на маім вяку ўдачы, поспехі і нараканні.
3) Бяда хоць мучыць, але жыць вучыць.
4) Я малым хлапчуком палюбіў твае пушчы і нівы, і блакітныя рэкі, і мора зялёных лугоў.
5) Над зямлёю плыла светлая прыпарушаная лёгкай смугою, напоўненая ціхай урачыстасцю ноч.

**5.** *Адзначце сказы, у якіх знакі прыпынку пастаўлены правільна.*

1) Нібы птушаняты, дрэмлюць дзеткі ў пуховых пасцельках.
2) Скончыў грацъ – паны ў ладкі запляскалі як адзін.
3) Паўлюк Багрым уваўшоў і застаўся ў беларускай літаратуры, як аўтар верша «Зайграй, зайграй, хлопча малы».
4) Ноч бяздонная, як мора, цягне ў глыбіні памяці.
5) Сонца, што жоўтая ружа, а хмаркі, што пух гусіны.

**6.** *Адзначце сказы, у якіх неабходна выдзеліць знакамі прыпынку азначэнні.*

1) Маладыя, поўнай надзей, з неадольнай прагай жыцця мы не баяліся ніякіх цяжкасцей.
2) З ранку да вечара сонца плавае ў блакіце шчодра адорваючы зямлю ласкавымі промнямі.
3) Увесь дзень за выключэннем перапынку на абед быў прызначаны агляду гаспадаркі.
4) Не надта ўезджаная дарога вужакай вілася паміж укрытага інеем арэшніку.
5) Бярозкі ледзь кранутыя пазалотай восені нібы дапамагалі сонцу праганяць з лесу змрок.

**7.** *Адзначце сказы, у якіх набраныя курсівам словы (словазлучэнні, сказы) трэба выдзеліць коскамі.*

1) Пад клёнам была лапінка зямлі, куда *нават* летам не пранікае сонца.
2) Грацыёзна павярнуўшы ў бок нечаканага візіцёра галаву, якую аздаблялі галіністыя *як толькі і за дрэвы не чапляюцца!* рогі, лось паварушыў вялікімі вушамі, трасянуў грывай і застаўся стаяць на месцы.
3) Ад сэрца шчырага вітаю цябе *мой любы сябар*!
4) Пачаў Алесь сваё выступленне здалёк *як кажуць* ад Адама, гаварыў агульнымі фразамі, устаўляючы шмат незразумелых слоў.
5) Хоць парыла цэлы дзень, дажджу *аднак* не было.

**8.** *Адзначце сказы, у якіх на месцы пропускаў ставяцца коскі.*

1) Яшчэ хвіліна _ і парог хаты пераступіць той, каго так чакае Ліда.
2) Колькі ж рэчцы пятляць _ і кружыць колькі ёй па жаданні прыроды?
3) Асеннімі днямі чырванее рабіна _ ды просяцца з купіны ў рот журавіны.
4) Мы трапілі ў бярэзнік _ і ён, паварочваючыся перад намі, выхваляўся і паказваў свае ўборы.
5) Ты любіла маўкліва ўсміхацца _ а я табе спавядацца любіў.

**9.** *Адзначце сказы, у якіх трэба паставіць тры коскі.*

1) Спасцігнеш паэта лепш за ўсё ў месцы дзе ён нарадзіўся або там дзе нарадзіўся яго талент.
2) Няма для сэрца даражэйшай зямлі чым тая што ў нядолі ўзгадавала.
3) Шпакі і ластаўкі – дробязь якой каб і вельмі хацелася не палічыш.
4) Я вярнуўся сюды дзе праводзіла ў свет мяне маці дзе я радасць і смутак маленства спазнаў.
5) Яшчэ да таго як сяло апаноўваў шумны лівень неба над прыціхлымі хатамі і агародамі нізалі стрэлы маланак і расколвалі ўдары грому.

**10.** *Адзначце сказы, у якіх на месцы пропускаў трэба паставіць двукроп'е.*

1) Сумна, тужліва пазіралі шкляныя вокны пустой Мацвеевай хаты _ паехаў дзед у горад, да ўнукаў.
2) Дуброва выглядала вельмі прыгожа _ пасля дажджу на сонцы яна блішчала, аж зіхацела.
3) Пушынка да пушынкі _ нам пярынка.
4) Тут вецер вільготны і пругкі _ тут ружы ў духмянай расе.
5) Маланкі стрэламі ўстаюць _ у бубен сыпле гром.

**11.** *Азначце сказы, у якіх знакі прыпынку пастаўлены правільна.*

1) Пакуль будуць гуслі звінець на Нёмане сінім, на чыстай Дзвіне, руні нашай вясной зелянець, дочкам нашым жаніхоў мець, хлебу духмянаму быць на стале, роднаму слову з намі сталець.
2) Дзень быў ясны, паветра такое чыстае, якім бывае толькі ў асобныя дні верасня, калі восень робіць першыя крокі, пасылаючы на зямлю лёгкі, бадзёры халадок.
3) Забываюцца некаторыя словы, і не яны вінаваты ў гэтым, а мы: усё аддаляемся ад жывое гаворкі.
4) У шляхетным палацы, у аздобленай мармурам зале, дзе грымела мазурка, і свечкі гарэлі ледзь-ледзь, перад дамамі сэрца паэты калені схілялі, і жанчыны шчасліва пачыналі ўміг маладзець.
5) Падпалкоўнік ведаў, што барацьба за той бераг будзе цяжкай: немцы зробяць усё, каб затрымаць наша наступленне.

**12.** *Адзначце сказы з простай мовай, у якіх знакі прыпынку пастаўлны правільна.*

1) «Ну, што, прыпамінаеш – пытаецца Герасім, усё яшчэ трымаючы маю руку ў сваёй. – Не пазнаеш?»
2) Жанчына выхапіла рубель і працягнула шафёру «Сынок, на скарэй грошы і дай білет».
3) «Хто яшчэ хоча выступіць?» – звярнуўся да прысутных старшыня сходу.
4) «Брыгадзір нас трохі крыўдзіць, – смяецца Мурашова. – Цукерак не купляе і не заляецца да нас».
5) «Харошая галава ў хлопца, – гаворыць Каляда і ўдакладняе: – Міністэрская!»

**13.** *Выпішыце граматычную аснову безасабовага сказа.*
1) Адрэзанае лусты не прылепіш.
2) Пагодлівая раніца.
3) У кожным дрэве чую родны пах.
4) Пасля дажджу пасвяжэла.
5) У настаўніку бачылі чалавека вялікага сэрца і адкрытай душы.

## ТЭСТ 5

**1.** *Адзначце сінтаксічныя канструкцыі, якія не з'яўляюцца словазлучэннямі:*
1) дзевяноста трэці;
2) вызначыць напрамак;
3) знатныя людзі;
4) малады і шчаслівы;
5) быццам кроны.

**2.** *Адзначце сказы, у якіх выдзеленае слова з'яўляецца выказнікам.*
1) Дні *пагодлівыя, сухія.*
2) Душа без роднай мовы – *пусты дом.*
3) Месяц узняўся над лесам, і яго празрыстае святло *разлілося* над ужо суцішанаю вадою.
4) *Размаўляць* з настаўнікам нам было вельмі цікава.
5) Далей на лузе *буйныя*, як мак, чырвона-жоўтыя званочкі.

**3.** *Адзначце сказы, у якіх на месцы пропускаў абавязкова ставіцца працяжнік.*
1) Снег _ як пух.
2) Сцежкі дубровы _ самыя ціхія, родныя гукі _ самыя звонкія.
3) Спакойны і далікатны чалавек _ наш настаўнік.
4) Кніга _ крыніца мудрасці, ведаў.
5) Пісаць пра мінулае _ не крочыць назад.

**4.** *Адзначце сказы з прапушчанымі знакамі прыпынку.*
1) Чалавек робіць пэўнае прозвішча, надае яму вагу, значнасць, стварае свой імідж.
2) Лістападу радуйся і снежню, і вятрам асеннім, і снягам.
3) Наіўнае захапленне навакольным светам, радаснае хваляванне, раптоўныя прылівы радасці і сумненняў усё гэта поўніла Максіма.
4) Падае ў зямлю зерне, прарастае, дае ўсходы і новае зерне.
5) Пыл клубіцца ўслед за машынай, асядае на прыдарожнай выпаленай сонцам траве.

**5.** *Адзначце сказы, у якіх знакі прыпынку пастаўлены правільна.*
1) Андрэйка, як агню, баяўся дзеда і таму вырашыў пайсці на хітрыкі.
2) Многія з валуноў трапілі ў спіс помнікаў гісторыі і культуры Беларусі, як крупінка духоўнага і матэрыяльнага жыцця.
3) З клёна, як з календара, лісты зрывае восень.
4) Людское сэрца, быццам мора: у ім бывае шторм і штыль.
5) Маленькая вёсачка, як падковай, была атулена лесам.

**6.** *Адзначце сказы, у якіх неабходна выдзеліць знакамі прыпынку акалічнасці.*
1) Тонкая сіняватая смуга поўная цеплыні і ласкі песціла далёкія лясы і купчастыя бярозы.
2) Першай прачнулася вярба руплівая маладзіца.
3) Па дарозе можна было ехаць і не кіруючы канём.
4) Многа гадоў назад Мінск прыняў мяне на свае вуліцы і падгадаваўшы крыху кінуў у самы вір гарачай работы.
5) Мая гаспадыня была увішная, рухавая кабета нягледзячы на свае пяць дзесяткаў гадоў.

**7.** *Адзначце сказы, у якіх набраныя курсівам словы (словазлучэнні, сказы) трэба выдзеліць коскамі.*
1) Пётр Міхайлавіч так *звалі майго новага знаёмага* на працягу многіх год быў выкладчыкам прыродазнаўства.
2) Лес *як вядома* адначасна і стары, і малады: у ім адбываецца няспынная змена пакаленняў.
3) *Менавіта* ўчарашні дзень дае пачатак кожнаму новаму дню.
4) Блізкая восень у лесе адчувалася *аднак* не па жоўтым лісці, а па своеасаблівым грыбным паху.
5) Дзе ты *зорка мая прамяністая*? За якія хмары закацілася?

**8.** *Адзначце сказы, у якіх на месцы пропускаў ставяцца коскі.*
1) Які прастор для думкі чалавечай _ і які размах для працавітых рук!
2) Хутка ўжо зоркі зірнуць сіняватыя _ і месяц пакрые палі палатном.
3) Вясна красавік свой знаходзіць _ а людзі – праменьчык надзей.
4) Яшчэ некалькі дзён _ і знікнуць апошнія плямы снегу.
5) Грымяць святочныя салюты _ ды феерверкі зырка рассыпаюцца.

**9.** *Адзначце сказы, у якіх трэба паставіць тры коскі.*

1) Адсырэлі запалкі бо калі салдат поўз набілася снегу ў кішэні.
2) Міхаіл як толькі ажаніўся тады ж ад бацькі аддзяліўся бо стала цесна.
3) Каб мог сабраць дажджынкі з белых хмар я іх прынёс бы ўсім пустыням у дар.
4) Здаўна лічыцца што на Дзяды душы продкаў прылятаюць на зямлю каб даведацца як жывуць іх нашчадкі.
5) Колас любіў чыстыя баравыя лясы дзе прасторна воку дзе над галавой ніколі не змаўкае вячысты гоман хвойных вяршынь і дзе ў дастатку паветра і сонца.

**10.** *Адзначце сказы, у якіх на месцы пропускаў трэба паставіць двукроп'е.*

1) Даспявалі суніцы ў зялёных барах _ на шыпшыне звінелі пчаліныя гуслі.
2) Заўсёды помню ісціну святую _ нельга пражыць на гэтым свеце без святла і цяпла.
3) Сабіна, відаць, збіралася вышываць _ у руках яна трымала паркаль і мулінэ.
4) Зара вясенняя над полем _ у змроку тоне сцежка палявая_ змаўкае хор дзявочых галасоў.
5) Прыйдзе раніца _ будзем раіцца.

**11.** *Азначце сказы, у якіх знакі прыпынку пастаўлены правільна.*

1) Гармонік усё граў ды граў, і ўсё той жа дзявочы голас спяваў пра закаханых, што ніяк не могуць расстацца, пра росную сцежку ў жыце і туманы над ракою.
2) Сплывуць гады, а мне не раз прысніцца, як ён карміў мяне суніцамі.
3) Сонца яшчэ ўставала, але ўсход быў як бы агорнуты ружовай істужкай зары і тонка пахла ў паветры вільготнай травой, якая нагадвала пах чабору.
4) Цяпер на месцы саду і завулка гудзе праспект напружана і гулка, з аблокамі гамоняць камяніцы, але завулак той і сёння сніцца і дарагім здаецца мне ўдвая: у ім жыла каханая мая.
5) Хмаркі падняліся крышку вышэй, і па ўсім было відаць – будзе добрае надвор'е.

**12.** *Адзначце сказы з простай мовай, у якіх знакі прыпынку пастаўлны правільна.*

1) «Я чалавек пры службе, а не на ігрышчы, – сурова адказаў Віталій і дадаў: – Майго сумлення не чапай».



2) «Любіце сваю зямлю аддана і да канца, – слушна пісаў Уладзімір Караткевіч. – Іншай вам не дадзена, ды і не патрэбна».
3) «Нават не ўяўляю, як я магла жыць без цябе» – гаварыла Наталля.
4) «Не рабіце з мухі слана – запярэчыў Ігар Апанасавіч. – Звычайнае юначае захапленне».
5) «Ты разумееш, Каця, – нясмела пачаў Пагарэльскі – выпадкова мне ў кішеню трапілі білеты ў кіно».

**13.** *Выпішыце граматычную аснову пэўна-асабовага сказа.*

1) Дзве работы зараз не зробіш.
2) Дзядзьку ў рыбе шанцавала.
3) Велічна-спакойная Вісла.
4) Рыхтуюся да ўступных іспытаў у інстытут.
5) На вуліцах запалілі ліхтары.

## Рэкамендаваная літаратура


1. Бадзевіч, З. І. Беларуская мова / З. І. Бадзевіч. – Мн. : Юні-прэсс, 2005.
2. Бадзевіч, З. І. 50 асноўных правілаў беларускай пунктуацыі / З. І. Бадзевіч, І. М. Саматыя. – Мн. : Сучаснае слова, 2000.
3. Беларуская мова. Цэнтралізаванае тэсціраванне : зб. тэстаў. – Мн. : Аверсэв, 2007.
4. Клімавец, В. П. Беларуская мова ў практыкаваннях і тэстах / В. П. Клімавец. – Мн. : Аверсэв, 2006.
5. Сіўковіч, В. М. Беларуская мова : практыкум для старшакласнікаў і абітурыентаў / В. М. Сіўковіч. – Мн. : Універсал Прэс, 2005.
6. Цыбульская, С. І. Беларуская мова : інтэнсіўны курс падрыхтоўкі да тэсціравання і экзамену / С. І. Цыбульская. – 3-е выданне. – Мн. : ТэтраСистемс, 2006.




## Змест


Прадмова . . . . . . . . 3
**Словазлучэнне** . . . . . . . . 4
**Просты сказ** . . . . . . . . 7
**Складаны сказ** . . . . . . . . 12
**Складаназалежны сказ** . . . . . . . . 13
Знакі прыпынку ў складаназалежным сказе . . . . . . . . 13
Знакі прыпынку ў складаназалежным сказе з некалькімі даданымі часткамі . . . . . . . . 15
Знакі прыпынку ў складаным бяззлучнікавым сказе . . . . . . . . 16
Аднародныя і неаднародныя азначэнні . . . . . . . . 20
Аднародныя члены сказа з абагульняльным словам . . . . . . . . 22
Адасабленне дапасаваных азначэнняў . . . . . . . . 24
Адасабленне недапасаваных азначэнняў . . . . . . . . 25
Адасабленне прыдаткаў . . . . . . . . 25
Адасобленыя акалічнасці . . . . . . . . 29
Адасобленыя дапаўненні . . . . . . . . 30
Зваротак . . . . . . . . 32
Знакі прыпынку ў сказах з пабочнымі словамі, спалучэннямі слоў . . . . . . . . 35
Устаўныя канструкцыі . . . . . . . . 38
Параўнальны зварот . . . . . . . . 40
**Кантрольныя заданні** . . . . . . . . 46
Тэст 1 . . . . . . . . 46
Тэст 2 . . . . . . . . 49
Тэст 3 . . . . . . . . 52
Тэст 4 . . . . . . . . 55
Тэст 5 . . . . . . . . 58
Рэкамендаваная літаратура . . . . . . . . 62

Вучэбнае выданне

# БЕЛАРУСКАЯ МОВА

## СІНТАКСІС І ПУНКТУАЦЫЯ

Практыкум
для навучэнцаў І курса

Складальнік
**Акуліч** Наталля Мікалаеўна

Заг. рэд.-выдав. аддзела В. П. Казельская
Рэдактар Г. Л. Говар
Карэктар Н. Р. Міхайлава
Камп'ютэрная вёрстка Н. М. Алейнік

План выдання 2008 г. (паз. 7)

Выдав. ліц. № 02330/0131735 ад 17.02.2004.
Падпісана ў друк 29.05.2008. Фармат 60х84 $^{1}/_{16}$.
Папера пісчая. Гарнітура Таймс. Друк рызаграфічны.
Ум. др. арк. 3,72. Вуч.-выдав. арк. 3,03. Тыраж 70 экз. Заказ 113.

Выдавец і паліграфічнае выкананне Установа адукацыі
«Мінскі дзяржаўны вышэйшы радыётэхнічны каледж»
220005, г. Мінск, пр-т Ф. Скарыны, 62.

